ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

19 КРАСАВІКА 1996 г. № 16 (3840) Кошт 2 500 руб.





*Заснавальнікі і сябры БелАВМа*

# ВІТАЕМ, НОВАЯ АКАДЭМІЯ

У Нацыянальнай мастацкай галерэі днямі адбылася афіцыйная прэзентацыя новай акадэміі — Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва (БелАВМ) — арганізацыі грамадскай і ганаровай. Падзея гэта сама па сабе адметная. І тым, што нарэшце для мастакоў і ў нашай краіне з'явілася вышэйшая адзнака творчасці ў якасці звання акадэміка жывапісу, графікі альбо рэстаўрацыі. І тым, што раскошай гэты крок аніяк не назавеш, бо са складанасцяў часу творцы з-за адсутнасці дзяржаўнай падтрымкі мусяць выходзіць самі. Таму і стварылі год таму, спрэзентаваўшы цяпер, новы дзейсны орган — ганаровую акадэмію.

На чале акадэміі — прэзідэнт, ім абраны жывапісец Ф. Янушкевіч. Увогуле маецца быць 47 акадэмікаў. На вакантныя пасады будзе абвешчаны конкурс. У складзе акадэміі сабраліся прадстаўнікі розных творчых пакаленняў, і гэта — адзнака жыццяздольнасці новай установы, якая адмовілася ад снабізму ў адносінах да моладзі і ў той жа час прызнае заслугі старэйшых. Гэта відочна прагучала ў экспазіцыі выставы, складзенай з работ ужо абраных акадэмікаў. Іх аб'ядноўвае галоўнае — прафесійнасць, якая не залежыць ад накірункаў і стыляў. А дэвізам новай акадэміі сталі словы "Талент і мараль", неадлучныя ад прафесійнасці.

А таму — віват новая акадэмія!

**Н. Ш.**



*В. Янушкевіч. Макет помніка Ф. Скарыну ў Лідзе.*

Выставы

# БОЛЬ, ЯКІ ЗАЎСЁДЫ З НАМІ

На здымку — узарваны рэактар на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Той самы, што стаў прычынай самай страшнай у гісторыі чалавецтва катастрофы, якая трагічна адгукнулася ў лёсе ўсёй планеты, а найперш — у лёсах беларускага, рускага, украінскага народаў. Здавалася б, саркафаг, які, як вядома, быў узведзены ў хуткім часе, павінен садзейнічаць бяспечнасці рэактара. Але, па-першае, радыяцыя паспела "расплыцца" на многія і многія кіламетры наўкола... А, па-другое, ці гарантуе гэты самы саркафаг, што выпраменьванні не будуць працягвацца ў далейшым.

Пакуль вучоныя спрачаюцца наконт гэтага, рэчаіснасць, як кажуць, сама гаворыць за сябе. І пацвярджэнне таму яшчэ адзін здымак, што размешчаны поруч з ужо згаданым. Немаўля ў пялюшках і маці ў роспачы. Гэты эпізод "схоплены" фотааб'ектывам у Навукова-даследчым інстытуце радыяцыйнай медыцыны. Як вядома, знаходзіцца ён далёка ад Чарнобыля і непадалёку ад Мінска. Аднак не было б Чарнобыля, не было б і неабходнасці абследаваць дзяцей і іх маці, што нараджаюць дзяцей-калек, дзяцей хворых.

Гэтыя два здымкі як уступ да выстаўкі "Чарнобыльскі боль", арганізаванай Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь, БЕЛТА і грамадскім прэс-цэнтрам Дома друку і прымеркаваны да 10-годдзя Чарнобыля. Тут жа, у Доме друку ў Мінску, можна пазнаёміцца і са шматлікімі работамі вядучых фотамайстроў нашай дзяржавы, што ў сваёй творчасці не абмінаюць і тэмы катастрофы стагоддзя. У пераважнай большасці сваё здымкі, выкананыя імі, вядомыя многім. Яны змяшчаліся ў газетах і часопісах, іншых выданнях. Ды і прозвішчы іх аўтараў, як кажуць, наслыху — С. Жалудовіч, А. Талочка, С. Халадзілін, Я. Казюля, І. Юдаш і іншыя.

Пасля Мінска выстаўка накіруецца на Гомельшчыну і Магілёўшчыну, у тыя рэгіёны, дзе ўздзеянне чарнобыльскай катастрофы асабліва адчувальна. Акрамя таго, мяркуецца пазнаёміць з экспазіцыяй замежных паслоў, каб у перспектыве адправіць гэтую выставу ў краіны далёкага замежжа.







Варункі

# ДЗЕСЯЦЬ ГОД ПАСЛЯ

У восемдзесят шостым годзе я служыў у войску на Урале. Недалёка ад зоны, дзе адбылася першая атамная аварыя. Малады, прыгожы русачок Сярожа быў родам з горада, які замест імя насіў нумар. Ягоныя жыхары ў асноўным абслугоўвалі гэтую зону. Ён працаваў там электрыкам. "Клас! — распавядаў ён. — Чатыры гадзіны працуем, а плацяць як за восем". Мае хлопцы-землякі, пераважна трактарысты, зайздросцілі яму.

А потым узарваўся Чарнобыль. Ад бацькоў даведаўся, што на майскія святы яны, нічога не ведаючы, ездзілі ў Нараўлянскі раён да бабулі саджаць бульбу. Ад яе хаты да атамнай электрастанцыі было пяцьдзесят кіламетраў...

Хімполк з нашай дывізіі неўзабаве паслалі на дэзактывацыю. Землякі-бульбашы радаваліся, што едуць на Радзіму.

Пасля войска я з'ездзіў да бабулі. У калгасным возеры карпа не адлоўлівалі і ў мяне была захапляльная рыбалка. Галодныя кілаграмовыя люстраныя карпы літаральна кідаліся на чарвяка. Недарэчна было бачыць калодзежы, абцягнутыя поліэтыленам, і побач мурзатых дзяцей, якія перасыпалі вулічны пясок.

Упершыню, калі я пачуў ад Пазняка, што радыенуклідамі засыпана адна пятая Беларусі, — стала жахліва. Навукоўцы ўрэшце сабралі інфармацыю і звярталіся да "руководящей и направляющей", а там яе клалі ў шуфляду і загадвалі маўчаць. Ратуючы гонар мундзіра, яны свядома гробілі народ. І гэта была злачынная здрада.

Згадваю хроніку падзей і думаю, што калі б народны Фронт больш не зрабіў нічога, апроч выкрыцця хлусні пра Чарнобыль, дык і тады можна было б лічыць, што ён выканаў сваю місію.

Але няма прарокаў у сваёй айчыне. Прайшло не так шмат часу і праўду змяшалі з брудам, а тупалобыя шарыкавы, нацкаваныя расійскай набрыддзю, абылгалі няўгодную апазіцыю. Да ўлады прыйшла палітычная шушара. Галоўны бонза, захавальнік чарнобыльскіх таямніц, які павінен быў бы сядзець у турме, шчасліва перачакаў у сталіцы "братского" рускага народа і сёння ачольвае там нейкае беларускае таварыства чырвоных маскоўскіх паноў. Тут, у Мінску, згадалі пра яго і папрасілі, каб ён там дапамог...

А ў Мазыры на выбарах прайшоў яшчэ адзін гомельскі партыйны змагар з Чарнобылем. І бедныя людзі прагаласавалі не за дэмакратычнага саперніка, а за яго.

Усё змяшалася ў краіне, дзеяць суцэльныя рэфлексіі, і калі гэта яшчэ ў галовах большасці запануе логіка.

Разам з Чарнобылем фізічны наш народ раз'ядае духоўны Чарнобыль, своеасаблівыя камуністычныя праніцы, якія засталіся ў нас пасля шлюбу з вар'яцкай ідэяй. І гэта яшчэ страшней, бо духоўны Чарнобыль абяззбройвае нацыю, пазбаўляе яе маралі, праўдзівых арыенціраў, пачуцця самазахавання. Ён культывуе духоўны Садом, ператварае людзей у нямых і сляпых рабоў.

Зараз Народным Фронтам вылучана комплексная канцэпцыя ратавання нашай нацыі. І ў гэтай ідэі, падаецца, выйсце. Толькі дзе ж той мудры кіраўнік, які возьмецца выканаць яе...

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# СЯБРА І ДРУГ, ВЫХОДЗЬ НА ..."КРУГ"!

Пабольшала яшчэ на адно выданне дэмакратычнага і адраджэнскага кірунку. Красавіком пазначаны першы нумар беларускай праваабарончай газеты "Круг", заснавальнікам якой сталі Беларускі ПЭН-цэнтр і Беларускі Хельсінкскі Камітэт. Пакуль "Круг" будзе выходзіць як штомесячнік, — лімаўскім фарматам, але на 24 палосах. У далейшым перыядычнасць мяркуецца павялічыць.

Несумненна, новае выданне знойдзе сталых прыхільнікаў. Лічыць гэтак дае магчымасць першы нумар, які атрымаўся надзіва багатым на самыя розныя публікацыі. У гэтым, безумоўна, найперш заслуга галоўнага рэдактара "Круга", вядомага пісьменніка-публіцыста А. Казловіча.

Анатоль Мікалаевіч у новым выданні, як і ўвогуле ў сваёй творчай дзейнасці, не збіраецца абыходзіць вострыя вуглы ў жыцці нашага постсавецкага грамадства. Сведчыць пра гэта першая публікацыя нумара — "Дзённік рэдактара" — "Лявон Лявоніху разлюбіў". Голас аўтара скіраваны супраць хлусні і фальшу, якія доўгі час панавалі як нешта само сабой зразумелае, а яшчэ супраць успрымання беларусаў свайго люду нацыяй "закамплексаванай". Не абыходзіць А. Казловіч і падзеі мінулай вайны. Ён робіць пераацэнку таго, што па-ранейшаму, па інерцыі падаецца, як кажуць, у адным ружовым святле: "Для большасці беларусаў... сапраўдная Перамога ніколі не прыйдзе. Па-першае, многія памерлі, памерлі ў вялікай нястачы, не дачакаўшыся жыццёвых даброт, законных і лагічных для пераможцаў. Па-другое, надта многія пераможцы 1945-га, дажыўшы да 1996-га, засталіся, як кажуць, генералы, у страі, а мы скажам больш канкрэтна, — у адурманеным натоўпе, над якім дагэтуль лунае жоўты партрэцік Сталіна. Па-трэцяе, дзяржаўная прапагандысцкая машына, заведзеная Сталіным, працягвае штампаваць міф аб "масавым гераізме беларусаў у Вялікай Айчыннай вайне", ігнаруючы тое, што айчыны ў беларусаў не было (калі б была, то аддзячыла б за подзвіг), а вайна ў кожнага была асабістая..."

Матэрыялы "Круга" — па сутнасці сам зрэз сучаснага грамадства. З усімі яго праблемамі, з яго болем, з яго расчараваннямі і спадзяваннямі. "Узарвалася цывілізацыя" — гэтай назвай аб'яднаны дыялог А. Дзялендзіка з адным з урачоў пра вынікі Чарнобыля, які глядзіць на падзеі завельмі аптымістычна — "Жах праўды" і рэдакцыйны каментарый — "Жах ілжы".

"Практыкум Наталлі Доўнар" дазваляе атрымаць юрыдычны лікбез па тыповых сітуацыях. "Практыкум Андрэя Казловіча" — колькі павучальных сітуацый з паўсядзённага жыцця. А поруч — няменш актуальныя матэрыялы В. Каліноўскага "З Краіны Саветаў — у Савет Еўропы. А навошта?", С. Шаўцова "Беларускія камікадзе", М. Філіповіч "Свінцовыя дзеці", В. Тараса "Калі чалавек не здаецца — чалавека знішчаюць", нарыс У. Арлова пра І. Грынявіцкага "Дрэва свабоды на крыві не квітнее", згадкі М. Гарчака пра знакамітага мастака (найбольш як чалавека) Г. Вашчанку "Жоўтае воблака"...

Усе публікацыі, вартыя ўвагі, і не пералічыць, але пра адно хацелася б яшчэ сказаць: удалая рэдактарская знаходка — так бы мовіць кампазіцыйнае вырашэнне газеты. Адкрываецца яна рубрыкай "Нумар пачынае Васіль Быкаў". Васіль Уладзіміравіч выступае з артыкулам "Чырвона-карычневыя", у якім сцвярджае: "Горш за ўсё, што наша дэмакратыя па сутнасці не мае адэкватных сродкаў барацьбы з гэтай чумой XX стагоддзя. Традыцыйна дэмакратычныя, парламенцкія спосабы амаль не дасягаюць мэтаў, выбары фальсіфікуюцца, рэферэндумы з часоў III рэйха даюць спрэс запланаваныя іхнімі арганізатарамі вынікі. На разумную дэмакратычную аргументацыю ўлады адказваюць звыклым для іх спосабам: забаронай, рэпрэсіямі, сілай. Ва ўмовах пракамуністычнай заканадаўчай улады, такой жа выканаўчай і кішэннай судовай апошняя надзея дэмакратыі прыпадае на галоснасць, на сродкі масавай інфармацыі. Але і тыя з іх, нешматлікія, што хочуць застацца свабоднымі, выкараняюцца ўсімі спробамі — ад "фінансавых да паліцэйскіх".

А "Нумар завяршае Карлас Шэрман" з яго развагамі "Рэванш міфаў": "Сёння Беларусь ёсць квазіправавая дзяржава. Новы міф, як бы мы ні жадалі, ужо створаны. Цяпер улады выконваюць заканадаўства толькі ў той меры, у якой гэта ім па душы. Мы сведкі рэпрэсіі прававых заваёў, узнікнення новых ці прызабытых старых забаронаў і абмежаванняў, якія, натуральна, супярэчаць заканадаўству і канстытуцыйным нормам. Мы сведкі вынікаў касметычнай аперацыі, якая замест амаладжэння ўсё выразней праяўляе стары выскал дыктату. Міф аб самотніку, якому ўсялякія ворагі замінаюць, далёка не новы і спрычыніў мацнейшыя грамадскія трагедыі XX стагоддзя. На жаль, грамадства не хоча прыгадаць тое, што было з ім раней, цешыцца міфамі і ўласнымі паданнямі, не можа ўцяміць нават сэнс свабоды, бо ўсё яшчэ лічыць сябе свабодным за кратамі старых уяўленняў".

Адным словам, сябра і друг, выходзь на... "Круг"! І ў сваіх спадзяваннях, думаецца, ты не памылішся.

**Н. К.**

## ВЕРА — НЕ МУЗЕЙНЫ ЭКСПАНАТ

**Беларускае праваслаўнае брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў з мінулага года выдае інфармацыйны двухмоўны бюлетэнь "Орта-прэс". Мэта выдання — асвятленне разнастайнай дзейнасці праваслаўнай царквы па ўсім свеце. Выдаўцы, у тым ліку адказны за выпуск Мікола Матрунчык, імкнуцца давесці, што праваслаўная вера — "не музейны экспанат, а цэласнае веравучэнне" і што яно не супярэчыць духоўна-культурным універсальным каштоўнасцям, а, наадварот, памнажае іх.**

**Геаграфічны абсяг бюлетэня сапраўды ўражвае. Кіеў, Нью-Йорк, Іерусалім, Сафія, Лондан — вось няпоўны пералік гарадоў, адкуль паступіла інфармацыя ў "Орта-прэс". На гэтым фоне адносна нешматлікімі падаюцца весткі з праваслаўнага жыцця Беларусі.**

**Галоўны рэдактар выдавецкага аддзела — протаіерэй Георгій Латушка.**

**Г. З.**

## Леў ГАРЭЛІК



Беларускае мастацтва панесла вялікую страту. 11 красавіка пасля цяжкай хваробы пайшоў з жыцця выдатны скрыпач, народны артыст Беларусі Леў Давідавіч Гарэлік. Ён нарадзіўся ў 1929 годзе ў Бабруйску, музычную адукацыю набыў у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, але ж задоўга да яе заканчэння 16-гадовым юнаком пачаў творчы шлях артыстам Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР. З 1956 года Леў Давідавіч быў нязменным канцэртмайстрам і салістам аркестра Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета, спрыяючы павышэнню прафесійных якасцяў свайго калектыву не толькі бездакорнай уласнай ігрой, але і паслядоўнай карпатлівай выхавальніцкай работай.

Паралельна з працай у аркестрах Л. Д. Гарэлік вёў сольную канцэртную дзейнасць. Ён выканаў і запісаў на магнітную стужку і грампласцінкі пераважную большасць скрыпічных твораў беларускіх кампазітараў. Сам факт існавання такога таленавітага, высокапрафесійнага і бясконца адданага нацыянальнаму мастацтву музыканта стымуляваў стварэнне санат, канцэртаў, мініяцюр для скрыпкі. Без удзелу Льва Давідавіча не абыходзіўся ніводны кампазітарскі з'езд, пленум, паказ беларускай музыкі за межамі рэспублікі. Цудоўная скрыпка Льва Гарэліка гучала ў многіх краінах.

Здзіўляючая творчая энергія Л. Д. Гарэліка знаходзіла выхад і ў педагагічнай працы спачатку ў Мінскім музычным вучылішчы, пазней у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (Акадэміі музыкі), дацэнтам якой ён з'яўляўся з 1993 года.

Светлы і шчодры талент Л. Д. Гарэліка, творчая бескампраміснасць і прынцыповасць, добразычлівасць, таварыскасць у адносінах да людзей назаўсёды застануцца ва ўдзячнай памяці ўсіх, хто яго ведаў.

**Мясніковіч М. У., Русакевіч У. В., Сасноўскі А. У., Ярмошын У. В., Алоўнікаў У. У., Анісімаў А. М., Багатыроў А. В., Бузук Р.Л., Вагнер Г. М., Гільдзюк Ю. М., Глебаў Я. А., Дрынеўскі М. П., Дудараў А. А., Душкевіч І. А., Елізар'еў В. М., Казінец М. А., Калядка М. С., Картэс С. А., ЛамановічН.І., Лучанок І. М., Лях Л. П., Ніжнікава Т. М., Пелагейчанка Э. І., Пятроў Я. Ф., Ратабыльскі У. П., Сасноўскі А. П., Саўчанка А.М., Смольскі Д. Б., Траян Ю. А., Чарнабаеў В. М.**

Угодкі

Сакрат ЯНОВІЧ

# СОРАК ГАДОЎ "НІВЫ": ЭПОХІ І ПАКАЛЕННІ

Памятаю марозную зіму 1956 года. Ехаў я тады пуставатым рэйсавым аўтобусам з Крынак у Беласток, на работу ў арганізаванай уладамі рэдакцыі "Нівы". Свет засланялі дзівосныя ўзоры на шыбах, адчувалася нейкая зачараванасць, якая не пакідала мяне і потым.

Простыя людзі будуць мець сваю газету за польскія грошы! — для бацькі гэта быў парадокс, які доўга не працягнецца. Таму не ўхваляў ён таго, што я кінуў месца электратэхніка ў Фастаўскім камбінаце. Трэба каму гэтая газета? Хлеба яна людзям дасць? — ставіў стары пытанні.

Год той пачынаўся сапраўды незвычайна. Нашумеўшы дваццаты з'езд бальшавіцкай партыі прымаў я адным вухам, больш перажываючы ўстаноўчы з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства напрыканцы лютага ў Беластоку. Была на ім і мая маці, нават дэлегатам лічылася, аб чым не ведала і не ведае. Часам дапытвалася ў мяне, куды гэта звазілі былі яе з іншымі крынкаўскімі бабамі ды мужчынамі, адразу з местачковага рынку ды аж у Беласток, у пакрытым брызентам грузавіку з лавамі ў кузаве... А мы выпусцілі спецыяльны нумар тыднёвіка, не зусім верачы ў такі цуд сваіх здольнасцей.

Шчасце, што крыху ацёрся аб газетную работу наш малады шэф, назначаны вярхамі галоўны рэдактар. Пад энтузіязм купкі нацыянальных недабойкаў тыражы інаўгурацыйных нумароў "Нівы" размахнуліся проста паднебныя, калядзесяцітысячныя. Функцыянаваў міф пра сотні тысяч беларусаў. Тым болей верагодны, што жывое роднае слова часта чулася, а ў вёсках і глухіх мястэчках аніхто не азываўся па-польску; саромеўся, бо засмяялі б, што на пана захварэў. Беларуская мова — па паншчыннай традыцыі — трактавалася не як знак нацыянальнасці, але мужыцкасці. Гэты анахранізм ні трохі не пахіснуўся ў наступныя эпохі; дзеля гэтага спатрэбілася б беларуская дзяржаўнасць, якой не было і няма.

Значная папулярнасць "Нівы" трымалася на досыць працяглай жывучасці сялянства, распаўсюджанасці прадмета беларускай мовы ў школах, як і на прапагандзе саміх уладаў (таннасць падпіскі, і інш.). Прычым "Ніва" не мела канкурэнтнага мясцовага часопіса з падобным профілем, скажам, польскамоўнага. Нягледзячы на спрыяльныя ўмовы, друкаванне яе памяншалася час ад часу да трох з лішнім тысячаў экз. І каторы раз выклікала стан мабілізацыі ў калектыве, у выніку чаго падпіска і продаж газеты зноў раслі. Давялося тое, варта нагадаць, без знясільваючай натугі, бо тыднёвік выконваў ролю ідэалагічнага працягу ў грамадскія нізы, выяўляў памкненні партыі і ўрада Народнай Польшчы. Персанальная крытыка на ягоных старонках уяўляла сабою не меншую небяспеку, чымсьці на камітэцкім пленуме або на форумах іншых органаў. "Нівы" баяліся, жадалі згоды з ёю. Хто не меў прычын дзеля такое боязі, ахвотна ўчытваўся ў яе старонкі, каб пабачыць, каму яна "падсыпае пад хвост". Крытыка ў тыя часы лічылася абавязковым канонам дзейнасці — дзеля штораз лепшых вынікаў у вытворчасці і ў сферы духоўнасці.

Разам з тым "Ніва" сталася, аднак, гістарычна спозненай ініцыятываю. Яе росквіт дакладна суадпавядае гамулкаўскай эпосе ў Польшчы, разбурэнню сялянскіх гаспадарак, што на нашых слабых землях адбывалася малаканфліктна і нават з прыхільным разуменнем. Псіхалагічна збывалася адвечная мара халопа лягчэй жыць — праца на фабрыцы бачылася амаль несур'ёзнай забаваю, стандартная кватэра параўноўвалася з фальваркавымі або дваровымі пакоямі. Сапраўды мела месца рэвалюцыя быту цаною пераходу ў рабочы клас і поўнай дэнацыяналізацыі. Прыкладна да перыяду ранняга Герэка — да паловы сямідзесятых.

Масавы чытач, перамяшчаючыся ў гарады, браў у рукі ўжо іншыя часопісы і газеты, больш адэкватныя ягонаму навалёсу.

У прыход дэкадансу "рэальнага сацыялізму" было ясна, што вёска канчаткова асуджана не толькі ў адпаведнасці з камуністычнай дактрынаю, але і як постфеадальная структура. Пераход ад натуральнай да таварнай сельскай гаспадаркі прадракаў трансфармацыю краявіду з вёскі і поля ў мястэчка і поле, г. зн. індустрыялізацыю вырошчвання збожжа і жывёлагадоўлі. Атрымала тое польскую назву "пэгээрызацыі" (ад ПГР — накшталт "совхоза"). Перспектыўны чытач мог быць толькі тут; малады, а не сцішаны пенсіянер. Яно так і здарылася, ды не як простая паслядоўнасць: мястэчка брыняла білінгвізмам на карысць перавагі польскамоўя, адыходу ад беларускай монакультурнасці. Надыходзячая эпоха запачаткавала застойную пару ў дынаміцы часопіса з тэндэнцыяй да рэдукцыі яго ў маргінальную з'яву на арэале Беласточчыны.

"Ніву" горад практычна не чытаў і не чытае, акрамя заўзятых патрыётаў. У яе тэматыцы, асабліва ў другой — скажам: местачковай — фазе існавання дамінаваў прымат пашырэння сельскагаспадарчай вытворчасці і адпаведна ёй цывілізацыйнага росту ў побыце земляроба, як і пахвала ўваходжанню ў прамысловы пралетарыят, што адпавядала фундаментальнаму прынцыпу рабоча-сялянскага саюза ў партыйнай прапагандзе. Нацыянальныя акцэнты ў публікацыях дапускаліся не вышэй фальклорных захапленняў; час ад часу прыпаміналі кіраўніцтву і журналістам, што "Ніва" не столькі беларускае выданне, колькі менавіта польскае на беларускай мове. Мэта — не ў развіцці нацыянальных пачуццяў сярод нашага насельніцтва, а ў паступовай інтэграцыі яго з польскім. Адсюль паляк — заўсёды патрыёт, беларус жа — заўсёды нацыяналіст.

Здараліся, аднак, эпізоды, калі публіцыстыка ў "Ніве" вырастала да нацыянальнай. У моманты палітычных крызісаў, калі цэнзура страчвала арыенціры (1956-57 гг., 1971 г., 1980-81 гг.). Да канца існавання Польскай Народнай Рэспублікі агульны выраз "Нівы" меў сацыяльны характар, і была яна газетай для беларускамоўных грамадзян сялянскага паходжання з некаторай цікавасцю да беларускай нацыянальнай культуры. Прапарцыянальна тэмпам высыхання роднамоўя курчыўся яе тыраж і грамадскае значэнне. На зломе васьмідзесятых і дзевяностых гадоў "Ніва" апынулася на мяжы маральнага банкруцтва. Беларуская меншасць захавала сваю этнічнасць прыблізна ў дзесяці працэнтах ад папярэдняга ліку насельніцтва, пераважна распыліўшыся ў гарадской дыяспары; сёння татальная паланізацыя ахапіла і рэшту вясковых сем'яў (у самім Беластоку карыстаюцца родным словам няпоўныя два працэнты беларусападабенцаў). Для аналогіі варта дадаць, што ідэнтычныя працэсы наглядаюцца і ў самой Беларусі, датла абруселай.

Перад аблічам смерці нацыі як такой і перадачы яе высокай культуры ў спадчынны рэестр Еўропы наглядаецца нешта накшталт вядомай медыкам з'явы ажыўленасці чалавечага арганізма перад канчальнай агоніяй. Нарэшце з'явілася ў нас нацыянальная інтэлігенцыя, надзвычай актыўная і пладавітая інтэлектуальна. Гэта яшчэ адна наша запозненасць, бо яе кніжак па-беларуску няма ўжо каму чытаць (тыраж у сто экз. здаецца аптымальным). Роднай мове ў школе не навучаюць — ужо! — польскамоўных дзяцей і такія ж польскамоўныя ў прыватным жыцці настаўнікі. Паўсюдная ідэнтыфікацыя з праваслаўем і польскай нацыянальнасцю, вядома, не перакрэслівае далейшага існавання беларускай нацыянальнай меншыні, але змяняе яе статус з грамадскаістотнага ў неістотны, рудыментарны, рэшткавы. Сацыяльна інтэлігенцкі на гэтым субстраце фармуецца тып праваслаўнага паляка з прыязнымі адносінамі да беларушчыны. Нярэдка падрыхтаванага гаварыць і чытаць або нават пісаць па-беларуску, што не азначае, быццам ён схільны рэбеларусізавацца. Базай дзеля нашай культуры ён не будзе, але саюзнікам — непрадуктыўным — так!

Аднойчы згубленая мова не вяртаецца. Ізраільскае адступленне ад гэтага правіла (іўрыт) толькі падцвярджае правіла.

У сітуацыі гаснучай шырэйшай грамадскай патрэбнасці ў "Ніве" сацыяльны аспект у яе публікацыях — сялянскасць і местачковасць — перастае мець сэнс. Народ, які не хоча быць беларускім, глядзіць на "Ніву" часамі з сімпатыяй, але купляць яе не возьмецца. Купіць інтэлігент, тыя паўтары-дзве тысячы (калі палічыць абітурыентаў і студэнтаў). Справа не ў моўным бар'еры, як сведчыць аналагічны тыраж польскамоўнага "Часопіса". Хто самавызначыўся палякам, таму беларуская тэматыка ўжо натуральна не цікавая.

Нацыянальная структура насельніцтва Беласточчыны фінальна стабілізуецца. Выміраюць беларускамоўныя палякі. Польскамоўныя ж беларусы — гэта непаразуменне, блытаніна нацыянальнасці з веравызнаннем. Застануцца неасіміляванымі нацыянальна свядомыя беларусы — не больш пяці працэнтаў у супастаўленні з сямісоттысячным насельніцтвам ваяводства (30—35 тыс.). У такім абсягу асяроддзя — некалькі тысяч сем'яў — "Ніва" непазбежна пераўтворыцца ў адназначна нацыянальнае выданне. Яе далейшае існаванне прадыктуюць не грамадскія патрэбы (мінімальныя), а выключна палітычныя інтарэсы Польскай дзяржавы, асабліва ў кантэксце Еўрапейскай супольнасці і ўсходняй палітыкі. Канфлікт на прадмет супраслеўскага манастыра не пакідае сумненняў у тым, што ў палітыцы няма сантыментаў. Калі на гэты баланс добры скутак ад утрымлівання "Нівы", то яна дастане неабходныя сродкі. Але калі праз колькі часу акажацца, што яе можа ўжо не быць, то і не будзе. Так было ад пачатку веку. Цяпер, аднак жа, гэта проста кідаецца ў вочы — на фоне элітнасці беларускага патрыятызму і агульнай грамадскай маргінальнасці.

Гэта вельмі і вельмі сумны дыягназ! Лепшая, аднак, горкая праўда, чым салодкая ілюзія.

**Ад рэдакцыі.**

Сакрата Яновіча наш чытач лепей ведае як публіцыста, чым як празаіка. Яго чарговы аналітычны матэрыял чытаеш з дзіўным пачуццём. Здавалася б, падзеі адбываюцца сярод беларускай меншасці Польшчы (там свая спецыфіка, свае ўплывы), а здаецца, што гэта ўсё пра нас, тутэйшых беларусаў. Многія сацыяльныя працэсы сапраўды блізкія. Гэта і "апралетарванне" сельскіх жыхароў, і іх непазбежная дэнацыяналізацыя. З улікам таго, што беластоцкую "Ніву" мы чытаем рэдка і слаба ведаем яе, развагі Сакрата Яновіча пра гэтую газету, пра шляхі яе развіцця карысна прачытаць усім нам.

Беларушчына

**И вечный бой! Покой нам только снится...**

**А. Блок**

***Час няўмольна мяняе нашае жыццё. Яшчэ ўчора мы жылі ў зусім іншым вымярэнні, калі ўсё было стабільным, як нам здавалася, на дзесяцігоддзі наперад. Але глыбінныя тэктанічныя працэсы, якія адбываліся пад вялізным мацерыком, што меў назву СССР, нечакана для многіх з нас вырваліся на паверхню. Некуды раптам знік звыклы "застойны" дабрабыт, парадаксальны па сваёй сутнасці, але такі камфортны... Зніклі і звыклыя ідэалагічныя арыенціры. На паверхні спакойнага раней акіяна жыцця разгуляліся хвалі нечуванага шторму, якія адных захліснулі, другіх напалохалі, трэціх прымусілі грэбсці больш інтэнсіўна...***

# ЗАЛОЖНІКІ ВЕЧНАГА БОЮ...

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

## I

Вельмі шкада сёння многім з нас слаўных савецкіх часоў са "сваім, савецкім гонарам" за супердзяржаву, што была большая за ўсіх і, як меркавалася, мацнейшая за ўсіх. Нават сам факт прыналежнасці да такой дзяржавы даваў адчуванне значнасці, напаўняў нашыя душы пыхаю да дробных нягеглых суседзяў, якія, дарэчы, усе былі нашымі сябрамі і саюзнікамі. Вядома, на сяброў (як гэта і ў людзей бывае) і выдаткі былі немалыя. Але ж дзяржава наша была багатая. Адной нафты, напрыклад, дабывалі амаль як увесь свет астатні разам. Ну падумаеш, пазычылі трохі яе ў нашых дзетак, унукаў, праўнукаў і г. д... Дык ізноў жа, і сярод людзей гэтак бывае. Але затое і ў суседзяў і ў нас саміх дабрабыт быў стабільны. І на хлеб хапала, і на "чарніла", і на каўбасу злашчасную, і на мыла... Ну знікала часам мыла з каўбасою разам з якімі-небудзь іголкамі. Ну стаялі трохі ў чэргах. Дык што — чэргі! Не ведаю як каму, а мне падабалася. Бывала, пастаіш пару гадзін, з людзьмі пагаворыш-"паабшчаешся" — столькі ўсяго прыемнага наслухаешся і пра родную партыю, і пра яе мудрае кіраўніцтва на чале з... Ну забыліся зараз пра тыя чэргі. Дык амаль цэлае пакаленне вырасла пры "перабудове" і "незалежнасці". Яно і не памятае нічога. А людзі пажылыя, то, можа, і праўда забыліся... Але затое становішча тады было ўсім зразумелае — і ў палітыцы і ў эканоміцы, не кажучы ўжо пра гісторыю з геаграфіяй. Не было, скажам, па той жа гісторыі ніякай самадзейнасці — каб кожны сабе пісаў, што хацеў пра яе. Нашу гісторыю пісалі ў "лепшым горадзе зямлі" — і ўсе былі задаволены. А на працы, напрыклад, цудоўнае было жыццё — хочаш працуй, хочаш не, а зарплата ёсць. Часам, праўда, адрывалі ад чытання кніжак мастацкіх, а жанчын ад вязання карысных рэчаў, і вазілі ў калгасы дапамагаць працаўнікам сяла... Нядрэнна, словам, жылі.

Прыдумала потым "руководящая и направляющая" нейкую перабудову. Што яны хацелі перабудоўваць, і сёння незразумела. Чаго **ім** не хапала?

## II

Першы вялікі шок мы перажылі ў 1991 г., калі маскоўскія "эксперыментатары" рашыліся на "рыначны" крок — узнялі рэзка кошт на прадукты і тавары першай неабходнасці. Вялізная краіна стаічна сцярпела аплявуху, а вось БССР — найстабільнейшая са стабільных — "адкалола нумар". На самую вялікую ў Еўропе плошчу імя самага вялікага правадыра ўсіх часоў прыйшлі сотні тысяч (!) працоўных з непахісным: "Даеш!"

Далі... Напалоханыя і разгубленыя "рулявыя" далі тады ўсё, што маглі, і "выпусцілі пару" з "катла". Кінуты "кавалак" супакоіў — "з намі, бач, лічацца!"... "Якраз тады — у красавіку 91-га — найбольш відавочна праявіўся адметны беларускі кансерватызм —з'ява па-свойму унікальная. Навучаныя горкім шматвекавым вопытам, калі ўсялякія (!) перамены нічога добрага не абяцалі, беларусы вельмі балюча паставіліся да змянення ўсталяванага ў апошнія дзесяцігоддзі "статус-кво". Праўда, пазней, калі здзек з людзей працы ўвайшоў у сістэму і набыў характар адкрытага і цынічнага рабавання, народа ужо не пратэставаў... Такі феномен яшчэ патрабуе пэўнага асэнсавання, але хутчэй за ўсё — гэта вынік працэсу ў грамадстве, калі дасягнута гранічная мяжа фізічнай і духоўнай стомленасці простага народа ў знясільваючай барацьбе за хлеб надзённы. Што ні кажы, а пастаянная негатыўная атмасфера падточвае і надломвае духоўны стрыжань як асобы, так і цэлага народа. У выніку — прастрацыя, абыякавасць, якія паступова пераходзяць у дэградацыю... Ну ці не падобна на выпіску з бальнічнай карткі цяжка хворага, калі дактары штодзень бясстрасна фіксуюць у ёй карціну няўхільнага паталагічнага працэсу...



Так, народ наш дарэшты, смяротна стаміўся ад незразумелых бясконцых палітыкаэканамічных гульняў і пры нагодзе прагаласаваў за тых, хто ўпэўнена абяцаў выйсце простае і зразумелае...

## III

Шмат было ўсялякіх рэцэптаў па выйсці з тупіку. Але ўсе яны так ці інакш групаваліся вакол двух асноўных кірункаў. Першы — які недвухсэнсоўна праводзяць у жыццё сённяшнія кіруючыя колы Беларусі — гэта адмаўленне ад яшчэ даволі ўмоўнай, дэкаратыўнай дзяржаўнасці і перадача ўсёй нашай незайздроснай сёння "гаспадаркі" на "баланс" Расіі. Другі кірунак — спроба, выкарыстоўваючы пэўныя выгады суверэнітэту, абапіраючыся найперш на свае сілы, пабудаваць-такі нарэшце на гэтай шматпакутнай зямлі сапраўднае дзяржаўнае ўтварэнне, вектары інтарэсаў якога былі б скіраваны як на захад, так і на ўсход.

Загнанае за апошнія пяць гадоў у тупік грамадства ў значнай сваёй большасці схілілася да першага варыянту. Складваецца ўражанне, што за гэтыя гады для дыскрэдытацыі ідэі дзяржаўнасці было зроблена ўсё магчымае і немагчымае, прычым як праціўнікамі гэтай ідэі, так і заўзятымі яе прыхільнікамі. Як ні сумна, але гэта датычыць і ўвядзення новых дзяржаўных сімвалаў, і рэалізацыі Закона аб мовах, і мноства іншых палітычных і культуралагічных аспектаў. Аказалася, што ўвасабленне святых для іншых народаў паняццяў свайго дома, свабоды — справа ў беларускіх умовах надзвычай карпатлівая і далікатная. Але ні знешнія, ні ўнутраныя абставіны не далі часу на "раскачку". Ва ўмовах іх жорсткага, часам бязлітаснага прэсінгу неяк разгубіліся, страцілі імпэт многія з тых, хто, здавалася, мог стаць нашым Маісеем, які вывеў бы нацыю на бальшак...

Усё больш мацнеючая настальгія ў грамадстве па былой стабільнасці дала відавочны карт-бланш тым, хто "не паступіўся прынцыпамі". Але маналіту, як у былыя часы, у нашым грамадстве сёння няма. Калі "агрэсіўна-паслухмяная большасць" без сумневу вызначылася, то ўпартая "меншасць" (усе выбары, дарэчы, даволі дакладна акрэслілі гэты кангламерат) чамусьці не выяўляе вялікага энтузіязму ў высакароднай справе вяртання ў "светлае мінулае". Хоча хто таго, ці не вельмі, але гэтая меншасць заняла сваю пэўную нішу ў палітычным спектры грамадства і наўрад ці сказала сваё апошняе слова. Бо валодае значным інтэлектуальным і энергетычным патэнцыялам, які пакуль што не ўмее пэўным чынам рэалізаваць. Ізноў сёння, як ніколі востра, паўстае пытанне аб лідэрах, але ўжо не бальшавіцкага, максімалісцкага кшталту, а цвярозых і прагматычных, незашораных небяспечнымі для жыцця нацыі ідэалагемамі... Па ўсім відаць, што іх трэба чакаць ужо ў бліжэйшы час.

## IV

Вывесці дзяржаўны лакаматыў з тупіку аказалася справай далёка не простай. Гэта зусім не той яскравы прабег на вядомым усім "паравозе", які абяцаў надзейна даімчаць да жаданага "прыпынку". Мала для такой справы было і вышэйшай цэкоўскай кваліфікацыі, бракуе яе і сённяшняму кіраўніцтву. Але не гэта галоўная спружына неўтаймоўнай тэндэнцыі перадаць кіраванне ў рукі маскоўскіх "машыністаў", імкнення да тэрміновага ўзнаўлення "Саюза непарушнага", так неабачліва парушанага ў Віскулях. Зусім не зважаюць на тое, што расійскія "рулявыя" загналі сваю "машыну" амаль да аварыйнага стану, моцна буксуючы не толькі ў Чачні ці Таджыкістане... Пад гнётам каласальных эканамічных, палітычных і ваенных праблем гаспадары "Трэцяга Рыма" не надта спяшаюцца прычапіць да свайго "цягніка" беларускі вагон, нягледзячы ні на шумныя передвыбарчыя абяцанні, ні на шырока рэкламуемыя дамовы. Хутчэй за ўсё скончыцца тым, што "вагон" наш **быццам бы** прычэпяць і мы **быццам бы** паедзем... да светлай будучыні...

## V

Падзеі, якія адбываюцца з намі і вакол нас, усё болей драматызуюцца апошнім часам па ўсіх законах тэатральнага жанру. І тэатр, унутры якога мы існуём, рэдкасна відовішчны. Праўда, у ім пераважаюць монаспектаклі, але гэта заканамерная даніна нашаму савецкаму выхаванню. Наш каштоўны вопыт удзелу ў "масавых сцэнах" унікальны і мы ахвотна і шчыра "падыгрываем" асноўным выканаўцам. Змены ў тэатральнай "трупе", якія адбыліся апошнім часам, мала паўплывалі на сам "сцэнар", бо яго традыцыйна пішуць для нас не нашы "сцэнарысты". Ды і галоўныя ролі размяркоўваюцца не ў нас. За рэдкім выключэннем. Што зробіш, калі "рэжысура" не наша. Ох ужо гэтая "рэжысура"! Яе "рожкі" відавочна тырчэлі і тырчаць амаль з усіх асноўных "клубкоў" інтарэсаў нашага грамадства, як палітычных, эканамічных, ваенных, так і маральных... Не заўсёды, праўда, шанцавала з галоўнымі выканаўцамі. То пераіграюць, то недаіграюць, а часам нават і "тэкст" не могуць агучыць як след.

Дастаткова згадаць, напрыклад, паплечнікаў былога асноўнага прэтэндэнта на пасаду "губернатара" "Северо-западного края", якія дэталева і грунтоўна падганялі "касцюм" першай беларускай канстытуцыі пад памеры ягонай асобы. Яны ж ажыццяўлялі інтэлектуальнае і прапагандысцкае забеспячэнне "бенефісу". Мала, мусіць, знойдзецца ў гісторыі такіх яскравых прыкладаў, калі бліжэйшыя памочнікі так натхнёна капалі яму свайму патрону, ды бадай што і цэлай палітычнай эпосе. Бо нягледзячы на відавочную пераемнасць нашай улады, з палітычнай сцэны "ушли" апошніх цэкоўскіх "магіканаў", якія пасля даперабудовачнага камфорту аказаліся няздольнымі да бязлітаснай канкурэнцыі з боку прагных, агрэсіўных "маладых ваўкоў". Праўда, тады некаторым нават здавалася, што рухнула апошняя "берлінская сцяна" ў Еўропе і ў нас пойдуць, нарэшце, справы да рэформаў. Але гэтая сцяна сталася вельмі трывалай. Усе праломы ў ёй надзвычай хутка аднавіліся, як той "яшчарчын хвост".

Здавалася, што пасля шматгадовага панавання вярхоў наменклатуры вывесці псіхалагічна пераканальны імідж новага лідэра з доўгага шэрагу шэрасцяў другога і трэцяга яе эшалонаў — задача архіскладаная. Але масы праглі мецъ свайго правадыра — і яны яго атрымалі. Як вядома, ва ўсім цывілізаваным свеце "гульня ва ўладу" павінна быць знешне сур'ёзнай. Іхні выбаршчык не вельмі шануе шаржаваныя, гратэскныя вобразы палітыкаў, справядліва мяркуючы, што для гэтага "спектакля" больш падыходзяць законы драмы, чым камедыі. А ў нас усё інакш.

*(Працяг на стар. 12)*

Анатоль ЗЭКАЎ

# АБРАЗКІ



## КОЛЬКА

Мы сядзім удвух з маці ля печы. Яна чысціць на вячэру бульбу і распавядае пра маіх аднакласнікаў: хто з іх, дзе і як уладкаваўся ў жыцці. Неўпрыкмет пераходзім і на іншых аднавяскоўцаў — што ні кажы, а дома я бываю рэдка, навін у маці заўсёды хапае.

— Слухай, а гэта я табе казала ці не? — раптам спахопліваецца маці. — Колькі ж Кузьмінішынага ўжо няма...

— Што, памёр? — жахаюся я, ведаючы, што і маладыя землякі пасля чарнобыльскай аварыі нярэдка паміраюць.

— Хто яго ведае, кажуць, нібыта забілі...

Я згадваю Кольку, адзінага хлопца з вялікай Кузьмінішынай сям'і, і не магу ўявіць, што яго больш няма. Ён быў старэй за мяне гадоў на сем, а мо і болей — ужо не памятаю. Я яшчэ хадзіў у падшыванцах, калі Колька, скончыўшы школу, падаўся ў горад. І хаця мы былі суседзямі, але ніколі не сябравалі — ці то ўзрост таму перашкода, ці нешта іншае. Ды і папраўдзе сказаць, нейкі нялюдскі ён быў. Нават калі я падарослеў, а ён прыязджаў у вёску, то, акрамя як паздароўкацца, мы не знаходзілі іншых слоў, каб усчаць размову.

Кажуць, у вялікіх сем'ях растуць добрыя дзеці. І ўсе — дружныя. А Колька — як бы выпаў з гэтага гнязда. Кузьмінісе ад яго дасталося, бадай, больш, чым ад астатніх васьмі дачок разам. Хаця памятаю, як маці расказвала, што калі нарадзіўся Колька, Кузьмініха на сёмым небе была ад шчасця: нарэшце-такі хлопчык!

А той хлопчык пазней, так і не завёўшы ўласнай сям'і і не знайшоўшы прытулку ў жыцці, забіраў у маці на старасці апошнюю капейчыну з невялічкай пенсіі. І калі тая аднойчы не ўтрымалася, са слязамі на вачах паскардзілася: "Лепш бы я, сынок, цябе не нараджала", агрызнуўся: "Магла і не нараджаць! Я цябе не прасіў!.."

Кузьмініха нейкі год, лічы, не дажыла да смерці сына. Уяўляю, як бы яна ўбівалася над яго труной...

## САМАГОННАЯ АРЫФМЕТЫКА

У Валодзькі нюх на гарэлку, як у бусла на жаб. У яго, дарэчы, і мянушка Буслік. Але, калі папраўдзе, займеў ён яе не па гэтай прычыне, а з-за свайго высокага росту і хударлявасці. І яшчэ, пэўна, з-за хады: Валодзька і сапраўды сігаў, як бусел па балоце: цыб-цыб, цыб-цыб...

Убачыўшы, што ў Колі, да якога ён шыбаваў, зачынена брама, грукаць не стаў. Але і адступацца не хацелася. Пэўна ж, зачыніўся сусед таму, што гоніць самагонку. Валодзька ўявіў, як апетытна цурчыць у слоік цеплаватая, хоць і прайшла праз змеявік, самагонка, і на душы ў яго стала неяк тлумна-салодка. Бы цудам ён толькі што і на самай справе перакуліў паўнюткую шклянку жаданай вадкасці.

З хвіліну патаптаўшыся ля зачыненай брамы, вырашыў пагрукацца ў шыбу. З акна ніхто не выглянуў, але яго маглі ўбачыць і праз фіранкі. А каму-каму, а суседу Коля адчыніць. Не было яшчэ такога выпадку, каб не адчыніў.

І сапраўды, неўзабаве ляпнула клямка, рыпнулі веснічкі, і ў двары зашаргацелі крокі — яны набліжаліся да брамы.

Прапусціўшы Валодзьку ў двор, суседка Наташа зноў зачыніла браму на металічную засаўку.

Валодзька, выпіўшы поўную шклянку першака і прыкусіўшы скрылікам сала, прыкметна асалавеў. І, як не ўпершыню, сядзеў, абапершыся локцямі на ўскрай стала, і нахвальваў суседаву самагонку:

— Ты вось скажы мне, Коля, колькі ты бярэш з чыгунка?

— Тры літры, — адгукнуўся гаспадар, тым часам мяняючы ваду ў цэбры.

— І я тры, — буркнуў Валодзька. — Але тады чаму яна выходзіць у цябе мацнейшая?

— О-о-о, — задаволены пахвалой, усміхнуўся Коля і тут жа змяніў тон. — Ды таму, што мая ўся тут, — ён кіўнуў на трохлітровік, што стаяў пад цурочкам. — А ты ж, пакуль выганіш, то амаль літру вып'еш. Так?

— Так.

— А трохлітровік усё роўна возьмеш.

— Вазьму, — пагадзіўся Валодзька.

Коля адставіў убок вядро, з якога толькі што пераліў у цэбар ваду, і падступіў бліжэй да суседа:

— Дык гэта ж ужо не тры літры з чыгунка, а чатыры атрымліваецца, матэматык чортаў?

Валодзька сядзеў моўчкі, быццам яшчэ раз падлічваючы тое, што сказаў зараз сусед. Пацягнуўся за скрылікам сала, але жаваў яго, было бачна, неахвотна. Наташа кіўнула мужу, і той наліў Валодзьку яшчэ паўшклянкі. Выпіўшы, сусед колькі часу сядзеў не дыхаючы, потым хукнуў:

— Моцная, гары яна гарам! То ж трэба: аказваецца, уся справа ў арыфметыцы...

## ЛЁГКАЯ СМЕРЦЬ

На працягу года я ўжо трэці раз трапляю ў бальніцу з язвай страўніка.

Лежачы ў палаце пад кропельніцай і штодня разважаючы, што так бяздарна марную дарагі час, які мог бы скарыстаць больш плённа, раз-пораз згадваю бабулю Марфу. За ўвесь свой доўгі век ніколі не звярнулася яна да доктара, не прыняла ніводнай таблеткі, не зведала ніводнага ўкола.

Было, занядужае, дык маці мая, бабуліна нявестка, і скажа: "Мам, можа б, я Вольгу Ларкаву паклікала, хай бы паслухала..." А бабуля ў адказ толькі рукамі замахае: "І не думай нават, бо я праз гарод да Просі ўцяку". Так яна баялася той фельчарыцы, што гатова была ў старэйшай дачкі схавацца ад яе белага халата.

Нешта падобнае адбылося і ў той цёплы веснавы дзень, які стаў для бабулі апошнім. Быў якраз поўдзень. Бацька прыйшоў на абед, і мы селі за стол. Бабуля ж Марфа прытулілася ля печы на ўслончыку. "Мам, хадзі есці", — паклікала яе мая маці. "Ешце, Наташа, без мяне, — падзякавала бабуля. — Я пасля. Нешта мне як блага..."

Праз колькі хвілін, калі мы ўжо сёрбалі гарачы крупнік, раптам пачулі бабулінае "вой". Маці з бацькам кінуліся да ўслончыка, з якога паціха спаўзала долу бабуля. Падхапілі яе пад рукі, падвялі да ложка, асцярожна паклалі проста на посцілку, якую сама бабуля некалі выткала і якою быў засланы ложак.

Маці села на ўскрай ложка, а бацьку сказала збегаць да цёткі Просі.

Калі цётка Прося разам з бацькам убеглі ў хату, бабуля Марфа ўжо гэтага не чула. Адышла на той свет ціха, як і жыла.

"То ж пашанцавала Марфе — такая лёгкая смерць", — цмокалі языкамі яе равесніцы-суседкі, калі сядзелі каля бабулінай труны ў нашай хаце, успамінаючы нябожчыцу.

...Столькі гадоў прайшло, а я толькі нядаўна па-сапраўднаму ўсвядоміў сэнс сказаных тады імі слоў. А то ўсё здавалася, што тыя два словы — "лёгкая смерць" — не могуць стаяць побач. Аказваецца, каб усвядоміць гэта, трэба захварэць самому.

А жыць, відаць, усё роўна хочацца кожнаму. Як бы лёгка ці цяжка ні паміралася.

## ГРУША

Пецька вышмаргнуў з-пад папружкі кашулю і проста ў траву паляцелі-пасыпаліся спелыя, жаўтабокія грушы.

— Больш не мог прынесці, — апраўдваўся хлапчук перад сябрамі. — Мама дома, баяўся, каб не змеціла. І так сварыцца, што ўсе грушы перацягаў...

Маці Пецькаву, цётку Вольку, мы ведалі. Скупая яна. Груш, яблык — поўная хата (вунь які сад!), але каб пачаставаць каго — не было такога. Свіней карміць будзе, а дзецям яблычка не адшкадуе.

Не раз перападала ад яе і Пецьку, які крадком частаваў нас грушамі і яблыкамі. Вось і сёння цэлую запазуху прывалок.

Мы смачна хрумсталі грушы, нахвальваючы і іх, і Пецьку. Мы ўжо ведалі, з якой ігрушыны якія грушы. Асабліва любілі з той, што расла ля плоту. Вялізная, разгалая, не было такога года, каб яна не ўрадзіла. Ад спелых, важкіх пладоў голле аж на плот навісала.

Якраз жа гэтая груша больш за ўсё і не давала спакою цётцы Вольцы. Ля самай жа вуліцы. Хлопцы ідуць з клуба і ніяк не могуць прайсці міма, каб не ўлезці. Цётка Волька і дрот калючы на штыкецінах нацягвала, і дзёгцем іх мазала — нічога не памагала. Спрабавала было пільнаваць, ды дзе там іх упільнуеш. Каб жа яны, чэрці, адразу, як толькі танцы ў клубе скончацца, ішлі дамоў, а то ж не — гойсаюць па вуліцы да рання.

І тады цётка знайшла выйсце. Зялёнымі абярэ ад вуліцы і спіць спакойна, ведаючы, што ў агарод хлопцы не палезуць, пабаяцца...

Раніцай я ледзьве прадраў вочы, як пачуў нечаканую вестку:

— Пецька Вольчын прапаў!

Я не мог зразумець, як гэта можа чалавек прапасці. Быў і прапаў? Ці можа такое быць? Мне як мову адняло. І горача стала, быццам мяне варам абліў.

А маці расказвала:

— Пайшоў учора надвячоркам парыбачыць. І не вярнуўся. Волька ўся абгаласілася. У каго не запытае — ніхто не бачыў, ніхто не ведае...

У той дзень маці мяне на рэчку не пусціла. А вечарам заўважыў, што з-пад застрэшку знікла і мая вуда. Я не стаў пытацца ў маці, бо і без таго ўсё разумеў.

Пецьку вылавілі на трэці дзень пад Азараўкай, што за колькі вёрст ад нашай Калыванаўкі. Прыбіла яго да куста вербалозу. Азараўскія мужчыны луг касілі, спусціліся да ракі вады папіць, там і ўгледзелі.

Калі прывезлі Пецьку ў двор, цётка Волька самлела. Адлілі яе вадою. Яна паднялася, агледзелася вакол няўцямным, бы звар'яцелым, позіркам.

Браты яе пад рукі трымалі. Дык яна вырвалася, схапіла жэрдку і давай па грушы малаціць:

— Гэта я ва ўсім вінавата, сынок! За грушыну кожную калацілася! Для каго калацілася? Хто іх есці цяпер будзе? Самой хіба ўдавіцца?

Грушы сыпаліся на дарогу, на штыкетнік, проста на галаву Вольчыну. А яна нічога не чула і не бачыла, мянташыла і мянташыла жэрдкай па ненавіснай ігрушыне.

А пасля спахапілася. Зірнула на дзяцей, што затаіліся ля двара, з цікаўнасцю пазіраючы на цётку. Кінула жэрдку пад штыкетнік, ужо ціха сказала:

— Ешце, дзеткі. Бярыце, ешце. Вунь колькі іх у мяне! Усім хопіць...

Дзеці не зварухнуліся.

## "КУПІЦЕ КАЦЬКУ!"

У брата нарадзілася дачка. І вось выбраліся мы з жонкай у адведзіны. Узялі з сабой і сына Сярожку — не кідаць жа яго, адзінаццацігадовага, аднаго дома ў Мінску. У Жлобіне, куды мы прыехалі апоўдні, каб перасесці потым на прыгарадны цягнік да Рагачова, дзе жыве брат, да нас далучылася і мая маці. Знарок так прымеркавала: маўляў, і ўнучку адведаю, і з вамі пагаманю. Учатырох і скіравалі на рагачоўскі цягнік. А праз нейкую гадзіну былі ў брата.

Перш чым падысці да калыскі, у якой ляжала немаўля — Кацька, маці доўга хукала на рукі, каб сагрэць іх пасля вуліцы. Рабіла гэта хутчэй па звычаі, бо на дворы нясцерпна смаліла сонца і ў хаце было куды прахалодней, чым за вакном. Схілілася над калыскай, зацмокала, а потым разагнулася і, убачыўшы Сярожку, які стаяў крыху зводдаль, за нашымі спінамі, паклікала яго да сябе:

— Хадзі, унучак, паглядзі, якая ў цябе сястрычка!

Сярожка падышоў да калыскі, стрыгануў вачыма на Кацьку і з пачуццём выкананага абавязку, адышоўся.

Потым мы сядзелі за сталом, пілі за здароўе нованароджанай і яе бацькоў. Сярожка ж, похапкам паеўшы, кінуўся ў двор — да клетак, што доўгімі радамі стаялі на ўсю тыльную сцяну хлява і ў якіх брат разводзіў трусоў. Прасоўваў ім праз сетку зялёныя маркоўныя сцяблінкі, пазіраючы, як трусы хуценька з'ядалі іх.

Калі ішлі на вакзал, Сярожка быў незвычайна засяроджаны. Такім мы не бачылі яго, прынамсі, даўно.

Разгадку яго настрою мы ўведалі на вакзале. Ля аднаго з прывакзальных кіёскаў, што, як грыбы, ляпіліся адзін да аднаго, бабуля паклікала Сярожку.

— Унучак, што табе купіць?

Сяргей адмахнуўся: маўляў, нічога не трэба!

Маці мая глянула на нявестку.

— Ну, Сярожа, чаго ты саромеешся? — жонка ўсміхнулася.

Сын спадылба паглядзеў на маці, потым, не ўзнімаючы галавы, гэтаксама зірнуў на мяне і раптам выпаліў:

— Лепш бы вы мне Кацьку купілі!

Мы знямелі. І што тут скажаш? Мая ж матуля, адвярнуўшыся, неўпрыкмет змахнула ражком хусткі няпрошаную слязу.

У цягніку, які, тахкаючы коламі, вёз нас у Жлобін, гаманілі пра рознае. Аднак у кожнага з нас не выходзіла з галавы Сярожкава вакзальная просьба.

# УСЁ ПРА НАС

## РАЗВАГІ МАСТАЦТВАЗНАЎЦЫ

Аднайменныя энцыклапедычныя даведнікі, падрыхтаваныя выдавецтвам "Беларуская Энцыклапедыя" — "Францыск Скарына" (1988 г.), "Архітэктура Беларусі" (1993 г.), "Этнаграфія Беларусі" (1989 г.), "Археалогія і нумізматыка Беларусі" (1994 г.), атрымалі вядомасць і агульнае прызнанне. Ужо той факт, што яны амаль адразу пасля выхаду з друку сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, гаворыць сам за сябе. Сёння, калі ўсё часцей гавораць пра незалежнасць нашай дзяржавы (на жаль, пакуль што больш гавораць, чым робяць), значэнне гэтых выданняў цяжка пераацаніць, бо яны даюць чытачу шырокі матэрыял для асэнсавання нашай нацыянальнай свядомасці, без якой развіццё нацыянальнай культуры немагчыма. Навукова-інфармацыйнай літаратуры пра Беларусь недастаткова і досыць часта даводзіцца сутыкацца з фактамі поўнага няведання нашай радзімы — яе гісторыі, культуры, мастацтва, канфесійнай сітуацыі ў мінулым і сёння. Вось чаму не без хвалявання бярэш у рукі новы манументальны энцыклапедычны даведнік "Беларусь", выдадзены БелЭН у гэтым годзе.

Можна пагадзіцца з рэдакцыйнай калегіяй, якая ў прадмове да даведніка азначае выключную цяжкасць задумы — сабраць пад адной вокладкай шматлікія і разнастайныя звесткі пра ўсе асноўныя сферы жыцця нашай краіны з яе складанай і драматычнай гісторыяй, развітой эканомікай і навукай, багатай культурай і мастацтвам, расказаць пра яе геаграфічныя аб'екты, нетры, расліны, жывёльны свет, пра яе насельніцтва з многімі тысячамі вядомых сыноў і дачок. Наколькі справіліся аўтары і выдаўцы з пастаўленай задачай? У энцыклапедычным даведніку "Беларусь" змешчана каля 5000 артыкулаў, прысвечаных самым разнастайным, але аб'яднаным агульнай задумай, тэмам. Чытач знойдзе тут артыкулы пра паходжанне назвы "Белая Русь", пра дзяржаўныя ўтварэнні (Полацкае княства, Вялікае княства Літоўскае, Беларуская Народная Рэспубліка, БССР, Літоўска-Беларускую ССР і інш.), пра беларускую мову, заканадаўства, розныя аб'яднанні, партыі, установы, з'езды, мастацкія кірункі і школы, помнікі дойлідства, гарады і мястэчкі, рэчкі і азёры, пра культурных і грамадскіх дзеячаў — іншымі словамі, пра самыя разнастайныя з'явы, факты, і помнікі. Адно толькі пералічэнне іх склала б ёмістую кніжку.

Не бяруся даваць усебаковую навуковую ацэнку артыкулам. Улічваючы спецыфіку выдання, гэта маглі б зрабіць спецыялісты розных галін навукі і культуры. Адзначу толькі, што навуковы ўзровень публікацый неаднолькавы. Патрабавальныя рэцэнзенты і крытыкі несумненна змогуць знайсці ў даведніку пэўныя хібы і яшчэ больш пропускаў. Асабіста мне, напрыклад, хацелася б, каб такія артыкулы, як "Беларусь", "Беларуская мова", "Беларусізацыя", "Двухмоўе", "Нацыя", "Нацыяналізацыя" і г.д., былі больш грунтоўныя і, галоўнае, каб яны структурна дамінавалі ў даведніку. Аднак, бясспрэчна, што навуковы ўзровень кожнага выдання адпавядае развіццю ў краіне навукі і самасвядомасці народа. Бо, як вядома, артыкулы пішуць канкрэтныя аўтары, ступень кваліфікацыі якіх розная.

Мне лягчэй арыентавацца ў артыкулах пра мастацтва: яго кірункі, школы, стылі і г.д. Цікавыя публікацыі "Адраджэнне", "Готыка", "Барока", "Класіцызм", "Ракако", што даводзяць існаванне і развіццё гэтых сусветных мастацкіх стыляў і напрамкаў на Беларусі. У артыкулах "Акварэль", "Жывапіс", "Графіка", "Скульптура", "Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва" і інш. не толькі паказана спецыфіка розных відаў выяўленчай творчасці, але згаданы і найбольш вядомыя мастацкія творы, іх аўтары, часам пазначана іх перыядызацыя, асноўныя тэндэнцыі развіцця, і ў цэлым дадзены чытачу першасныя веды пра беларускае мастацтва.

З асаблівай цікавасцю чытаюцца артыкулы пра найбольш балючыя і хвалюючыя праблемы нашага жыцця. З іх варта станоўча ацаніць публікацыю Л. Лыча "Русіфікацыя", у якой лаканічна і пераканаўча разгледжана як "мэтанакіраваная" палітыка ўлад Расійскай імперыі і Савецкай дзяржавы на свядомы адрыў беларускага народа ад "гістарычных традыцый, роднай культуры і мовы, насаджэння сярод яго рускай мовы і ладу жыцця".

Затое нельга пагадзіцца з меркаваннем А. Лукашэнца ў артыкуле "Двухмоўе", дзе "папераменнае карыстанне асобай або калектывам дзвюма мовамі" падаецца як "натуральная" з'ява і зусім не тлумачацца прычыны гэтага "папераменнага" карыстання.

Факты сведчаць, што так званае "двухмоўе" на Беларусі сёння, ва ўмовах усеагульнага дамінавання рускай мовы, гэта амаль не прыхаваны, свядомы прыгнёт беларускай мовы і культуры. Аргументаў тут больш чым дастаткова. Зрэшты, апошнія падзеі засведчылі, і так было заўжды, што так званае "двухмоўе" ініцыіруецца з высокіх кабінетаў, адкуль публічна выказваюцца перадусім непрыхільныя адносіны да беларускай мовы.

У артыкуле А. Сідарэвіча "Беларуская Народная Рэспубліка" прыведзена досыць фактаў, але яны, на мой погляд, недастаткова абагульнены, сапраўднае значэнне гэтай абвешчанай у 1918 г. беларускай дзяржавы раскрыта тут недастаткова. Больш грунтоўнымі маглі быць і артыкулы "Дрыгавічы", "Крывічы", "Радзімічы".

На жаль, у "Беларусі" былі выкарыстаны далёка не ўсе дасягненні папярэдніх энцыклапедычных даведнікаў. Выдаўцы абралі алфавітны прынцып падачы матэрыялаў. Пярэчыць супраць гэтага цяжка, бо перад намі — энцыклапедыя. Разам з тым нельга не заўважыць, што пры алфавітным прынцыпе наперадзе аказаліся драбнейшыя па значнасці публікацыі (напрыклад, "Абаб'е", возера ў Браслаўскім раёне — з гэтага артыкула пачынаецца Беларусь), а больш важныя — "Белая Русь", артыкулы пра дзяржаўны лад, палітычнае жыццё, культуру і мастацтва ў даведніку "Беларусь" трэба адшукваць.

Я перакананы, даведнік быў бы больш дасканалы, каб асноўнаму зместу папярэднічалі вялікія "зборы" — артыкул пра нашу краіну, — як гэта было зроблена ў энцыклапедыях "Архітэктура Беларусі", "Францыск Скарына", "Археалогія і нумізматыка Беларусі".

Не магу не выказаць тут сваё меркаванне і пра шматлікія артыкулы-"персаналіі", якімі літаральна перапоўнена Беларусь (з 4800 уключаных у даведнік артыкулаў ледзьве не палова — біяграфічныя). Чытаеш і пачынаеш разважаць: а ці ўсе гэтыя героі працы, ударнікі, палітыкі, партызанкі і партызаны, пісьменнікі і мастакі маюць гонар быць уключаны ў "Беларусь"? Тое, што змешчаны артыкул пра Янку Купалу, цалкам зразумела. А вось звесткі пра большасць іншых пісьменнікаў чытач знойдзе ў спецыяльных пісьменніцкіх даведніках. На мой погляд, у "Беларусі" дастаткова было б абмежавацца толькі спісамі членаў Саюза мастакоў, пісьменнікаў, але пашырыць звесткі пра саму Беларусь. Бо хто здольны адказаць на пытанне: ці варты той ці іншы сучасны дзеяч культуры (тое ж датычыцца сучасных герояў, былых падпольшчыкаў, партызанаў) заняць пачэснае месца ў гісторыі Бацькаўшчыны? З другога боку, нямала мастакоў (мінулага і сучаснага) у даведнік не трапілі.

"Беларусь" багата праілюстравана (1370 ілюстрацый, карт, схем), але макет выдання бездакорным не назавеш. Як ні дзіўна, "малюскам", "двухкрылым", "ракападобным", "матылям", "паўзунам" і інш. пашанцавала тут больш, чым этнаграфічным ансамблям, музеям, гарадам, замкам, цэрквам, касцёлам. Бо першыя даюцца "зборнымі" публікацыямі (нярэдка на палову старонкі), а другія — асобнымі творамі. Сярод прыемных выключэнняў — выдатна праілюстраваны артыкул "Адзенне". Лічу, што і іншыя публікацыі, у якіх асвятляюцца пытанні нашай дзяржавы, гісторыі, нацыі ў выданні "Беларусь", павінны былі б праілюстраваны паўней і багацей. Тым часам асобныя з публікацый на гэту тэму (напрыклад, артыкул "Вялікае княства Літоўскае") праілюстраваны вельмі блага. Зусім чамусьці не праілюстраваны артыкулы "Беларускія народы", "Радзімічы", "Крывічы", "Дрыгавічы"; не думаю, што яны заслугоўваюць гэтага менш, чым "земнаводныя", "зернебабовыя", "рыбы", "птушкі" і "грызуны".

Адзначаныя недахопы не змяншаюць значэння манументальнай працы, якая дае чытачу шматлікія звесткі пра Беларусь. Ёсць меркаванне, што даведнік будзе перавыдавацца на іншых мовах, хацелася б, каб у перавыданнях былі ўлічаны гэтыя заўвагі.

**Віктар ШМАТАЎ**

Фестывалі

# "ДАВАЙЦЕ ЎСЕ РАЗАМ СПЯВАЦЬ..."

***Стылізаваныя сямісвечнік-менора і львяня са скрыпкай і сумным поглядам сталі эмблемай Першага рэспубліканскага фестывалю яўрэйскай культуры, які адбыўся ў яркі вясенні, але ўсё яшчэ халодны сакавіцкі нядзельны дзень у Мінску. Яны ўпрыгожвалі афішы, расклееныя па горадзе, і сцэну Беларускай дзяржаўнай філармоніі, дзе больш за пяць гадзін гучала яўрэйская музыка: песні і хоры, танцы і аркестравыя п'есы, музыка верша... Эмблема яўрэйскага фестывалю суседнічала з яшчэ адной эмблемай — Першага фестывалю нацыянальных культур, які павінен адбыцца ў маі ў Гродне.***

Каля двух месяцаў ва ўсіх шасці абласцях рэспублікі праходзілі рэгіянальныя агляды мастацкіх калектываў, як нацыянальных, так і тых, у чыіх рэпертуарах прысутнічае яўрэйская тэма. Праводзіўся адбор твораў жывапісу, графікі, прыкладнога мастацтва. Фестываль праводзіўся Беларускім аб'яднаннем яўрэйскіх арганізацый і абшчын сумесна з Рэспубліканскім цэнтрам нацыянальных культур, амерыканскім яўрэйскім аб'яднаным размеркавальным камітэтам "Джойнт" і Ізраільскім культурна-інфармацыйным цэнтрам у РБ — у межах падрыхтоўкі да фестывалю ў Гродне.

Свята яўрэйскай культуры пачалося з адкрыцця ў фае філармоніі выстаўкі "Пад адным небам", арганізаванай галерэяй "Брама", яе арт-дырэктарам мастацтвазнаўцай Ларысай Фінкельштэйн. Была прадстаўлена творчасць мастакоў-яўрэяў, якія жывуць на Беларусі, і тых, "у кім ёсць хоць кропелька яўрэйскай душы".

А потым са словамі прывітання і віншавання выступілі прэзідэнт Беларускага аб'яднання яўрэйскіх арганізацый і абшчын Л.Левін, галоўны спецыяліст Кабінета Міністраў А. Білык і прадстаўнік "Джойнта" ў РБ З. Абрамсон.

Фестываль сабраў на адной сцэне дзяцей-дашкалятаў і падлеткаў, маладых і сталых, сівых ветэранаў. І ўся гэтая разнастайная, стракатая шматгалосіца, якая гаварыла і спявала на рускай і беларускай, ідыш і іўрыце, з'ехалася з усёй рэспублікі, каб пасля доўгіх-доўгіх гадоў замоўчванняў і паўпраўды на ўвесь голас годна і горда паказаць свой талент. І хоць на філарманічнай сцэне выступалі на гэты раз самадзейныя калектывы, якія розніліся і ўзростам, і ўзроўнем майстэрства, шчырасць, непрыхаванае хваляванне і трапятлівасць, душэўнасць захаплялі гледачоў.

Хоры ветэранаў мінскага і магілёўскага цэнтраў "Хэсед Рахамім" (цэнтраў міласэрнасці), хор Сусветнага агенцтва "Сахнут" (мастацкі кіраўнік і дырыжор Тамара Гуліна, канцэртмайстар Ірына Целяпнёва) і яўрэйскіх класаў мінскай школы N 132 (мастацкі кіраўнік Эстэр Рудэрман), тэатр песні "Сімха" СШ N 102 г. Мінска (мастацкі кіраўнік і дырыжор Лізавета Хаскіна, рэжысёр Ірына Сляповіч, харэограф Вольга Балабайка) і яўрэйскі тэатр песні "Мірхавім" Барыса Бляхмана з Віцебска, аркестр народных інструментаў "Марыола" пад кіраўніцтвам Анатоля Вялікіна з Ліды і ансамбль "Мішпоха" (мастацкі кіраўнік Юрый Рузін) з Гомеля, бард Віктар Шалкевіч з Гродна і музыказнавец з Магілёва Аркадзь Двілянскі, які вышуквае і даследуе старадаўнія яўрэйскія песні, танцавальны ансамбль "Прыбужжа" 3-й мастацкай гімназіі г. Брэста (мастацкі кіраўнік Валянціна Верам'юк, харэограф Леанід Фейгін, кіраўнік аркестра Юрый Сазанюк), ансамбль "Пацеркі" Ізраільскага культурна-інфармацыйнага цэнтра ў РБ, які выступае разам з танцорамі знакамітага "Равесніка" (мастацкі кіраўнік Яўгенія Старобінец і Леда Міхайлідзі), вакальны ансамбль "Блукаючыя зоркі" пад кіраўніцтвам Філіпа Заўта з Полацка, вакальныя і танцавальныя ансамблі мінскай, магілёўскай, бабруйскай, віцебскай нядзельных школ, салісты і дуэты, чытальнікі і расказчыкі — быццам з рогу багацця, лілася ў залу плынь музыкі, святла і дабра.

Уступам да фестывальнага канцэрта сталася журботная кампазіцыя, прысвечаная памяці шасці мільёнаў яўрэяў, загінуўшых у катастрофе (тэатр песні "Сімха"). А потым сцэна запоўнілася самымі юнымі — вучнямі нядзельных школ: "Шалом, хаверым! — Добры дзень, сябры!" — яркі карнавал фарбаў, мелодый і танцаў закружыўся перад гледачамі.

Сярод вельмі вялікай колькасці ўдзельнікаў, а ў фестывалі арганізатары стараліся сабраць тое лепшае, што ёсць у рэспубліцы, вельмі цяжка каго-небудзь вылучыць. Ды гэта і не было мэтай: фестываль — не конкурс. Але ў калейдаскопе калектываў і салістаў мне запомніліся яркі, свежы голас юнага спевака з Мінска Віталя Бейліна, які выконваў песні А. Гофмана на словы М. Ясеня, сёстры Юля і Оля Фаміны з Віцебска, хор агенцтва "Сахнут", Вольга Баскіна ды Іосіф Баршай з Бабруйска, якія цудоўна прачыталі "Аповесць пра рыжага Моталя" Іосіфа Уткіна. Надзвычай кранальнае і хвалюючае было выкананне песні М. Качана на словы Маісея Тэйфа "Кіхелех і земелех" хорам мінскага "Хэсед Рахамім". Надоўга застануцца ў памяці выдатныя аранжыроўкі лідскага аркестра "Марыола", дырыжор якога — Анатоль Вялікін — літаральна лунаў, купаючыся ў іскрыстых гуках яўрэйскіх танцавальных мелодый. А брэсцкі танцавальны ансамбль "Прыбужжа" ўразіў і выкананнем, і цікавай харэаграфіяй. Тэатр песні "Сімха" (мастацкі кіраўнік Л. Хаскіна), вядомы і ў нас у рэспубліцы, і за яе межамі, паказаў вельмі цікавую праграму, разгарнуўшы на сцэне цэлае тэатралізаванае дзейства. Але, на мой погляд, яго выступленне, якое цягнулася па часе амаль цэлае аддзяленне звычайнага канцэрта, зацягнула і без таго вельмі маштабны фестывальны марафон, які адбыўся ў многім дзякуючы намаганням кампазітара, дырэктара Магілёўскай абласной філармоніі Уладзіміра Браілоўскага і лектара-музыказнаўцы Беларускай дзяржаўнай філармоніі Іны Шайхатовіч.

"Давайце ўсе разам спяваць, радавацца, весяліцца" — гэтая думка была цэнтральнай на свяце яўрэйскай культуры. У сваіх прывітальных словах З. Абрамсон гаварыў пра аднаўленне перарванага ланцуга часоў і адраджэнне яўрэйскага жыцця на Беларусі, Л. Левін назваў імёны дзеячаў яўрэйскай культуры, якія стаялі ля яе вытокаў, а А. Білык нагадаў пра неацэнную каштоўнасць міжнацыянальнай згоды і міру. Зарукай гэтага і з'яўляецца тое свабоднае і ўсвядомленае імкненне да яднання ў мастацтве, дзе зліваюцца ў адно яўрэйскія, беларускія і рускія імёны, ствараючы радасную гармонію дабра.



**Іна ГУРАРЫЙ**

*Фота В. ТАЛОЧКІ БЕЛТА*

ЛІМ
ЧАСАПІС



# ПЯТРУ КОШАЛЮ — 50

**Пётр Кошаль — родам са Слуцка. Бацькі яго былі чыгуначнікамі, таму сям'я часта пераязджала з месца на месца. З 1952 года Кошалі жылі на Сахаліне, дзе ў 1966 годзе П. Кошаль скончыў два курсы філалагічнага факультэта педагагічнага інстытута ў Паўднёва-Сахалінску, а затым вымушаны быў працягваць вучобу ў Бельцкім педагагічным інстытуце (Малдавія). Атрымаўшы вышэйшую адукацыю, вярнуўся на Беларусь, настаўнічаў на Магілёўшчыне. У 1973 годзе П. Кошаль паступіў у Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага, які скончыў завочна ў 1979 годзе. Жыве і працуе ў Маскве.**

**Друкавацца пачаў з 1963 года. У 1979 годзе выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла ў серыі "Першая кніга паэта" зборнік П. Кошаля "Листва". Пазней выдаў кнігі паэзіі "Городская жизнь" (1981, Масква), "Река жизни" (1987, Мінск), "Такой как есть" (1987, Масква).**

**Працуе П. Кошаль і ў галіне перакладу. Дзякуючы яму на рускай мове ў Маскве пабачыла свет кніга паэзіі Р. Баравіковай "Горицвет" (1982). Разам з І. Бурсавым пераўвасобіў па-руску творы В. Дуніна-Марцінкевіча ("Избранное", 1991, Мінск). Аўтар шэрагу перакладаў з беларускай мовы, змешчаных у калектыўных зборніках і перыядычным друку.**

**З днём нараджэння, Пётр Агеевіч! Няхай і надалей Вам хораша жывецца і плённа працуецца як на паэтычнай, так і на перакладчыцкай ніве!**

# ПРЫСВЕЧАНА НАЦЫЯНАЛЬНАМУ АДРАДЖЭННЮ



**Больш за 90 работ прадстаўлена на выставе "Дзеячы нацыянальнага адраджэння Беларусі", якая праходзіць у Мінску ў касцёле святога Сымона і Алены. Партрэты прадстаўлены ў экспазіцыю старшынёй навукова-асветніцкага клуба "Спадчына" Анатолем Белым з яго прыватнай калекцыі.**

*На здымку: у час работы выставы.*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

# ЮНАЯ ПЕРАМОЖЦА



**На абласным туры рэспубліканскага конкурсу юных выканаўцаў імя Іосіфа Жыновіча, які праходзіў у Салігорску, Святлана Кандабарава заняла першае месца. Света паспяхова займаецца ў шостым класе Салігорскай музычнай школы па класе струнных інструментаў і заканчвае дзевяты клас агульнаадукацыйнай школы.**

*На здымку: пераможца абласнога конкурсу юных музыкантаў Святлана Кандабарава.*

*Фота Уладзіміра АМЯЛЬЧЭНІ, БЕЛТА*

# ЗАЛОЖНІКІ ВЕЧНАГА БОЮ...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

Якраз прыкметы гратэску (і ў нас і ў Расіі) найбольш захапляюць і прывабліваюць, уздымаюць выканаўцу такога кшталту на вяршыню славы і поспеху. Думаецца, у прэзідэнцкіх выбарах, якія хутка адбудуцца ў Расіі, такія якасці сыграюць ці не вырашальную ролю. Расія яўна ўжо выспела для таго, каб пасадзіць на Алімп свайго сарданічнага Напалеона, які з грубым вайсковым гумарам і моцным слоўцам, з генеральскай шчырасцю і праматою хутка выявіць і "вырашыць" усе тамтэйшыя праблемы. Таму, як нам здаецца, на фоне адстаўнога генерала шанцы параўнальна "сур'ёзных" лідэраў і "занадта смешнага" "сына юрыста" (што занадта, то...) выглядаюць праблематычнымі...

Што да беларускага "тэатра", то ён у нас вельмі адметны. Публіка ў шчырым захапленні ад сваіх куміраў і часта выклікае іх на "біс". Зусім няслушная проба спрычыніць наш "тэатр" па жанры да "тэатра абсурду", дзе ўсё "понарошку" і падобна на нейкі благі сон, які рана ці позна павінен скончыцца. Не, наш тэатр як быў, так і застаўся сацрэалістычны і па форме, і па змесце. Тое, што адбываецца — не абсурд, а няўхільная заканамернасць. Усё нас акаляючае зусім не "сон розуму", які нешта там "нараджае", а самая рэальная рэальнасць... Мы не спім, нават не дрэмлем і заўсёды гатовы весці бясконцы "смертный бой", гэта наш перманентны стан. Прычым няважна дзе — ці то ў Афганістане, ці то ў Чачні. Інакш нам жыць сумна. Бо жылі мы зусім нядаўна інтарэсамі ну амаль усяго свету, а тут яны звузіліся да нейкіх лакальных беларускіх праблем, зусім нецікавых і прэсных. Вось калі б "весь мир насилья" разбурыць...

## VI

Не, ніякага абуджэння не наступіць (прынамсі, у бліжэйшыя гады!) і гэта неабходна зараз жорстка і спакойна ўсвядоміць. Дакладней, даўно трэба было... Як і пазбавіцца ад пэўных ілюзій...

Як вядома, новая генерацыя кіраўнікоў прыйшла да ўлады на хвалі палітычнага і эканамічнага сумбуру — адлюстравання духоўнай і розумавай сумятні ў грамадстве. Здавалася, што яны выканаюць у Беларусі новыя гістарычныя функцыі — функцыі пераходнага этапу да рэальнай дзяржаўнасці беларускай нацыі. Бо па здаровай логіцы эліта павінна дзеля ўмацавання сваёй улады ўмацоўваць дзяржаву. Але гэта было б натуральна для **нармальнай** палітычнай эліты, якая ўзрасла на дражджах **нармальнага** дэмакратычнага грамадства. Але не для нашай, смяротна атручанай спецыфічнымі ідэалагемамі. Сёння можна ўпэўнена канстатаваць, што далёка не ўсіх нас савецкая ўлада навучала і выхоўвала "спустя рукава".

Не, зусім не дзіва, што гэтыя людзі апантана сякуць сук, на якім сядзяць. Яны безумоўна разлічваюць на нешта больш трывалае і камфортнае. Наўрад ці задумваюцца яны над лёсам усім вядомага "маўра", што "зрабіў сваю справу", ці яшчэ больш "шануемага" Герастрата. Сёння гэтая слава здаецца спакуслівай і шматабяцальнай, асабліва калі падаецца "аб'яднальнай". Усё гэта ў гісторыі ўжо было... Учынак Іуды толькі на першы погляд нелагічны, а за ім цэлая філасофія, пэўная ідэалогія...

Так, для рэалізацыі любой мэты патрабуецца "шчырая" і даходлівая ідэалогія. Якраз у нашай сітуацыі ідэалагічная настройка забяспечана цудоўна. Яна выдатна "кладзецца" на інтарэсы "большасці". Але інтарэсы яе — гэта яшчэ не воля народа, пра якую сёння так часта "вещают" "баюны Северо-Западного края". Бо не ім, добрым вучням сваіх настаўнікаў, казаць пра гэтую няшчасную, шматкроць "згвалчаную" волю, якую яны так цудоўна навучыліся скіроўваць у **любым** кірунку. "Глас народа" для іх не болей, чым разменная манета ў іх палітычных "шоу". І аспрэчваючы класікаў марксізму, мы вымушаны сёння прызнаць, што справа, як гэта і не парадаксальна, не ў вядомым "базісе", а якраз у "надстройцы".

## VII

Гэтая знешне бліскучая "надстройка", на першы погляд, шчырая і зразумелая, унутры эклектычна нашпігаваная ўжо даўно пацвілымі ідэалагічнымі клішэ і стэрэатыпамі. У свеце пераканання, пастаўленых з ног на галаву, якія на сённяшні дзень з'яўляюцца дамінантай ідэйнага багажу нашых "правадыроў", "надстройка" пераважае ўсялякую логіку і здаровы сэнс. З усіх шматлікіх маральных хваляў сусвету яна здольная "прымаць" толькі адну "хвалю". Астатнія звыкла "глушацца". Але, як ні дзіўна, гэтая частотная вузасць, абмежаванасць — моцны бок апалагетаў "усеагульнай сацыяльнай роўнасці". Яны не распыляюць і не трацяць сваю энергію на сумненні і ваганні. Пастаўленая задача павінна быць выкананая... Звыклыя стэрэатыпы — крэўная частка іхняга духу. Гэта і ёсць сакрэт іх стойкасці і адданасці пэўнай ідэі. Калі ж раптам вызваліць іх ад такой "начынкі" — яны ўмомант акажуцца апустошанымі і бездапаможнымі. Што застанецца ад такіх "правадыроў", калі пазбавіць іх, напрыклад, змагання з ворагамі народа, карупцыяй, нацыяналізмам? — Ды і адступаць ім няма куды — за імі Масква!..

Сёння яны ізноў грунтоўна рыхтуюцца да чарговага штурму "Зімняга", што як і тады, 79 гадоў таму, нікім не абараняецца. Ну а пошту, тэлеграф, радыё (чытай — СМІ) яны ўжо захапілі. І ўсялякія лжывыя міфы і стэрэатыпы з экзальтаваным уздымам ўзносяцца імі ў ранг святых ідэй і ўдзень і ўначы ўбіваюцца ў свядомасць і падсвядомасць людзей... Што ж, "Зімні" зноў, бадай што, будзе ўзяты, хоць па ўсім відаць ненадоўга. Але спачатку ў Расіі. Толькі цяпер на чале "штурму" там будзе не чалавек у цывільнай кепцы на браневіку, а бравы ваяка ў генеральскай фуражцы з двухгаловым арлом на танку. І мы будзем горача вітаць новую "перамогу", за якой, як вядома, абавязкова будуць і "індустрыялізацыя" з "калектывізацыяй" і гулагі. Бо энергія той "надстройкі" — гэта не толькі ідэалогія "маласвядомых" нашых "правадыроў", а і частка нашай сутнасці. Мы асцярожна нясём яе груз, баючыся і на імгненне пазбавіцца ад яго, атручаныя яго ядавітымі выпарэннямі, паралізаваныя гэтай зусім не боскай сілай...

## VIII

Калі азірнуцца ў наша трагічнае мінулае, то можна ўбачыць, як раскашаваў Лёс, калі з асаблівай асалодаю прыніжаў і знішчаў найбольш яркіх, годных, адорыных. Адбывалася злавесная недарэчная селекцыя унікальнай касты "выбраных", здольных на любыя (!) маральныя кампрамісы. Гэта датычыла не толькі самой эліты, але і многіх соцень тысяч (мільёнаў?!) нашых з вамі былых суграмадзян, так ці інакш зламаных, запляміленых ці проста купленых сістэмай. Вядома, што калі нікчэмнасць узвышаецца над усімі, яна імкнецца зрабіць нікчэмнасцямі ўсіх...

Усіх — не паспелі. Але вынікаў дасягнулі ашаламляльных. У "самай справядлівай" краіне найбольш каштоўнымі, запатрабаванымі аказаліся людзі жорсткія, подлыя, душэўна дэфармаваныя, амаральныя. Якраз яны былі (і ёсць!) на вастрыні таталынага імперскага вектара, энергічна праводзячы пэўную палітыку як у метраполіі, так і "на месцах". Яны былі выгаднымі сістэме, бо лёгка "замбіраваліся" і з'яўляліся зручнымі прываднымі рамянямі для такой жа апрацоўкі мас. Яны найлепшым чынам увасаблялі ў жыццё тоесныя між сабою імперскія і камуністычныя ідэалы, заўсёды былі нацэленыя на ўтварэнне "вялікага брацтва народаў".

Відавочна сёння, што наш цяперашні духоўны і эканамічны хаос — не толькі вынік правалаў у рэальнай палітыцы, у кіраванні дзяржавай, народнай гаспадаркай. Найперш гэта следства найглыбейшых маральных і духоўных заган, якія не адзін дзесятак гадоў раз'ядалі карозіяй нашы ўласныя душы... І мы, і цэлае пакаленне нашых папярэднікаў сталі ахвярамі нечуваных у гісторыі цывілізацыі па сваіх маштабах і дзёрзкасці эксперыментаў, як сацыяльных, так і над людскімі душамі. У нас капітальна адрэгулявалі ўсё чалавечае і маральнае і нацыянальнае.

## IX

Нашы нацыянальныя, этнічныя асаблівасці, нягледзячы на салідны генетычны запас трываласці, усё ж паступова згортваліся, падвяргаючыся карозіі ва ўмовах крайне агрэсіўнага асяроддзя. Узамен з'яўляліся іншыя рысы і якасці і "добраахвотнае" ўсведамленне сябе непарыўнай часткай "сям'і вольнай, новай". Вынік "выхавання" ў гэтай сям'і быў прадвызначаны. Наш нацыянальны воблік, які толькі пачынаў праяўляцца пасля працяглага калапсу, найбольш пацярпеў ад таго "выхавання".

Праўда, нейкі час (20-ыя гг.) сістэма спрыяла нацыянальнаму станаўленню, маючы на ўвазе пры будаўніцтве беларускага этнафасаду хутчэй дэкаратыўныя мэты. Але як толькі "працэс" пачаў выходзіць з-пад кантролю, яго рашуча спынілі. Пры гэтым добра прапалолі шэрагі беларусаў ад "пустазелля нацдэмаўшчыны".

Пасля тае "праполкі" беларусы надоўга супакоіліся, сталі прывыкаць да сваёй незайздроснай ролі прыдатка вялікай суседняй этнамасы, да канфармізму і сваёй маючай быць безыменнасці. Яны вымушаны былі змірыцца з амаль поўнай "кастрацыяй" свайго нацыянальнага духу, з тым, што іх краіну (і, думалася, назаўсёды!) выкраслілі і з гісторыі, і з геаграфіі. Таму і перакананы наш "электарат", і тыя, каго ён вынес на вяршыню, што дзяржавы ў гэтага народа ніколі не было (нейкая Літва!), што мы выйшлі з Кіеўскай Русі і цалкам "рускія людзі". Іншыя погляды былі маладаступныя народу, бо і, шчыра кажучы, малацікавыя, бо не ўкладваліся ў тыя самыя стэрэатыпы, створаныя, як здавалася, на вякі.

Па прызнанні аднаго з бацькоўзаснавальнікаў сістэмы Льва Троцкага, "ва ўсёй чалавечай гісторыі наўрад ці магчыма знайсці нешта, хоць бы аддалена падобнае на тую гіганцкую фабрыку хлусні, якая была арганізавана Крамлём". Паверым на слова аднаму з галоўных архітэктараў гэтай адмысловай фабрыкі...

Што да беларусаў, то яны прыцярпеліся, прывыклі да шматгадовых маніпуляцый са сваёй гісторыяй, да цынічнага і нахабнага рабаўніцтва іхняга дому, да ігнаравання і зневажання сваіх святынь... Так і не паспелі яны назапасіць, напрацаваць у агульнай сваёй скарбонцы маральны і духоўны капітал, які даў бы права "людзьмі звацца", стаць гаспадарамі ў сваім доме. Наркатычны імперскі сіндром ізноў заве іх далучыцца да "Вечнага бою" нашай няўсмешлівай і маласентыментальнай суседкі і ідуць яны на гэта "с весельем и отвагой..."

Усё так. Нічога нельга аспрэчыць. Але чамусьці не падымаецца рука судзіць гэты шматкроць абезгалоўлены народ, які сваю славутую "памяркоўнасць" і прывыкальнасць набыў не за свае генетычныя грахі, а праз шматлікія войны і нашэсці, праз злавесныя Курапаты і гулагі, праз незваротную страту лепшай часткі этнасу. Выжывалі цішэйшыя, найменей прыкметныя. А магутныя адметныя "зубры" гінулі першымі, а з імі шмат пакаленняў так ніколі і народжаных "зубранят", якія сёння змаглі б пастаяць за сябе і свой край. "Увесь свет ведае, — сцвярджаў Купала, — што самыя крывавыя бітвы, самае дзікунскае знішчэнне людзей і іх дабра было на Беларусі". Гэта было напісана больш за 20 гадоў да пачатку 2-ой сусветнай вайны, задоўга да Курапат і ГУЛАГа...

Дзіва не ў тым, што "большасць" маральна дэфармаванага народа без асаблівага роздуму адхіліла і сваю мову, і свае гістарычныя сімвалы, і сваю дзяржаўнасць. А ў тым, што каля мільёна грамадзян, не зважаючы на татальны маральны прэсінг, калі літаральна сеялася нянавісць да іншадумцаў, выказалася "не так, як усе". Гэта якраз і ёсць сведчанне таго, што нашы "каштоўныя" і, здавалася, нязрушаныя звычкі не сталі паталагічнымі і не згас у нашым асяродку агмень, вакол якога можна будзе будаваць свой уласны дом...

## X

Доўгі і няпросты чакае нас шлях да ўласнага Храма. Мы, па сутнасці, на самым яго пачатку. Пакуль што мы зацята ідзём па чужым шляху, да чужога Храма, не зважаючы на тое, што свет даўно змяніўся. Мы — заложнікі чужога бясконцага бою, у якім гінулі і працягваюць гінуць нашы лепшыя сыны... Цяжкая спадчына нянавісці сапраўды нарадзіла сярод нас сваіх дзяцей, якія з шалёным імпэтам адстойваюць чужыя ідэалы, чужыя інтарэсы. Але пабудаваць нешта значнае на нянавісці і канфрантацыі, на "негатыве" і таптанні святыняў немагчыма. Няма сумненняў і ў тым, што не будзе даўгавечнай у сённяшняй хутказгаючай наасферы палітычная кар'ера, якая будзе абапірацца на такіх "кітоў". Тэрмін расплаты за нашы грахі цяпер значна скараціўся. Час і прастора як бы спрасаваліся перад апошнім скачком да Вялікага Свята. Бо "не дзеля таго мы тут, каб праклясці цемру, а каб запаліць свяцільнікі"...

Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

# ДУМАЦЬ ВЕРШЫ...

З ЛІТАРАТУРНА-СЕНТЫМЕНТАЛЬНАГА ПАДАРОЖЖА

## СЛОЎНІК БАБЫ НАСТЫ



Аляксей Пысін раіў вучыцца роднай мове ў вясковых жанчын. Раіў вывучаць не толькі лексіку, якая ў іх багацейшая і чысцейшая, чым у мужчын, але і ўвесь адмысловы склад і лад іхняй гаворкі. Жанчына, казаў паэт, больш блізкая да прыроды, яе мяккая і чуллівая душа бліжэй да народнай песні.

**Жанчыны,**
**Маці-словатворцы,**
**Ў час калыханак вы спялі**
**Імя вясне, пчале і зорцы,**
**Усім добрым дзівам на зямлі.**

Гэтыя мудрыя радкі заўсёды ўсплываюць у маёй памяці, калі я сустракаюся з бабай Настай.

Вось і зараз мы з ёю не здароўкаемся, а **рукаемся**. А на каніцкай вуліцы сёння, даруйце, **сянні** не галалёд, а **ледзяніца**, і ў рукі баба Наста бярэ не кій ці кавеньку, а **цапок**, каб цапаць коўзкую дарогу. Яна вельмі непакоіцца, што на маіх ботах амаль зусім сцёрся **падпятак** — так мая бабуля называе абцас. На дварэ не толькі ледзяніца, але і яшчэ дужа **ёдка** — золка, ветрана і на халодным скавышы **брыніць** (рабаціць) вада ў плыткім Сураве, які тут жа за бабулінай хатай імкліва бяжыць да Бесядзі.

Частуе мяне баба Наста не проста яешняй, а цалкавухай (неразбітыя жаўткі) і добра **ўжалелай** (смажанай) бульбай. Вядома, што мы ахвотна бяром па **каліву** (па кроплі) яе мяккай, хатняга вырабу, гарэлачкі. І ў свае восемдзесят шэсць яна не любіць **верзяі** (лухты). Жыве, з цікаўнасцю, распытвае пра сваіх праўнукаў і зычліва кажа, што яны занадта вялікія **малізыннікі** (ласуны).

Я са смакам ем цалкавуху, ужалелую бульбу і з асалодай слухаю яе гаворку і не перастаю здзіўляцца, які яна выдатны лексікограф і бліскучы стыліст.

## ЦІ ЗБЫВАЮЦЦА ВЕРШЫ?



Што вершы збываюцца, мне вядома даўно. Яшчэ ў студэнцкія гады я напісаў верш "Калі ў вёсцы маёй паміраюць дзяды". Пасля публікацыі верша ў "ЛіМе" я неяк сустрэў свайго даўняга знаёмага, чалавека сталага і вопытнага, літаратурным густам якога заўсёды даражыў.

— Не пісаў бы ты, стары, такіх вершаў, — не то параіў, не то папрасіў мяне мой знаёмец, — не трэба...

— А што, слабы верш? — насцярожыўся я.

— Ды не ў гэтым справа, — адмахнуўся ён ад маёй насцярогі, — ты не крыўдуй, але такія вершы збываюцца.

Той размове я не надаў ніякага значэння і, відаць, зусім бы пра яе забыў, каб не адзін трагічны выпадак, які і сёння не дае мне спакою.

Мой каніцкі дзед па раннім зазімку пайшоў у суседнюю вёску ў госці да франтавога сябра і назад не вярнуўся. Яго шукалі ўсю зіму. Шукала радня, сваякі, суседзі, аднавяскоўцы, міліцыя, але пошукі былі марныя, як скрозь зямлю чалавек праваліўся: ні слыху, ні дыху. А быў ён яшчэ моцны і жылісты стары, і ў касавіцу намнога маладзейшым мог лёгка падрэзаць пяты. Усю тую зіму мы пражылі ў страшэнным напружанні. На кожны рып веснічаў, на кожны стук у вакно баба Наста і мая маці падхопліваліся з надзеяй: "Вярнуўся..." Але дзед не вяртаўся. Знайшлі яго толькі ўвесну, у самае разводдзе, калі Бесядзь выйшла са сваіх берагоў. Усю зіму ён праляжаў пад лёдам і быў як жывы.

Зразумела, што мяне можна лёгка аспрэчыць і ўсю гэтую гісторыю звесці да прыватнага выпадку, а заадно і папракнуць у нясціпласці: маўляў, бач ты яго, якую сілу свайму твору прыпісаў... Але давайце ўважліва прыслухаемся да таго, што раіў Барыс Пастарнак маладому Яўгену Еўтушэнку: "Я хачу даць вам адну параду.. Ніколі не прадказвайце сваю трагічную смерць у вершах, бо сіла слова такая, што яна абавязкова прывядзе вас да прадказанай пагібелі. Успомніце хоць бы, якія неасцярожныя былі са сваімі самапрадказаннямі Ясенін і Маякоўскі. І ўрэшце скончылі пятлёй і куляй. Я дажыў да сваіх гадоў толькі таму, што пазбягаў самапрадказанняў..."

І яшчэ адзін выпадак, дакладней, ілюстрацыя да сказанага. На гэты раз з гісторыі нашай айчыннай літаратуры. У майго земляка, таленавітага і рана адышоўшага Анатоля Сербантовіча ёсць верш, які не ўключаўся ні ў адну прыжыццёвую кнігу, цяпер, дзякуючы руплівасці крытыка Сяргея Кавалёва, ён змешчаны ў выбраным паэта "Жаваранак у зеніце". Кожны раз, калі мне даводзіцца яго чытаць, я адчуваю, як па маёй скуры прабягае мароз. Мяркуйце самі:

**Выплываюць тры новых труны,**
**Дзве вялікіх, адна малая.**
**Адплываюць у рэдкія сны,**
**З нашай памяці адплываюць.**

**Ці зусім я ўжо акалеў,**
**Адкажыце: у вас пытаю.**
**На адной труне "Аляксей",**
**На другой я "Сцяпан" чытаю.**

**Проста кружыцца галава,**
**Разбягаюцца літары тыя...**
**Хто жывымі нас пахаваў?**
**Мы, здаецца, яшчэ жывыя...**

**Адплываюць тры новых труны,**
**Дзве вялікія, адна малая...**
**Гэта сны, гэта толькі сны,**
**З нашай памяці адплываюць.**

На вялікі жаль, сны паэта спраўдзіліся. Не трэба быць літаратуразнаўцам, каб лёгка расшыфраваць гэтыя, страшныя ў сваім прароцтве, радкі. Першым на трыццатым годзе пакінуў гэты свет аўтар, а затым, як і прадказана ў вершы, Аляксей Пысін і Сцяпан Гаўрусёў. Таксама заўчасна і таксама трагічна. Дзве вялікія труны — гэта іхнія, а малая — Анатолева, ён быў малы ростам...

Тры выдатныя паэты-магілёўцы былі звязаны не толькі зямляцтвам, але і цесным сяброўствам. Яны былі вельмі блізкія па духу і іхні талент вызначаўся выключнай шчырасцю.

Самае дзіўнае, што ўпершыню гэты верш я пачуў з вуснаў Сцяпана Захаравіча дажджлівым вераснёўскім вечарам 1981 года ў рэйсавым аўтобусе Мінск—Магілёў, калі мы, прыгнечаныя агульным горам, вярталіся з пахавання Аляксея Васільевіча Пысіна.

## ШТО ГАЛОЎНАЕ ДЛЯ ПІСЬМЕННІКА?



Мне пашчасціла некалькі разоў падарожнічаць па Магілёўшчыне з Іванам Чыгрынавым. Ягоныя запросіны разам наведаць нашую радзіму я прымаў з ахвотай і ўдзячнасцю. Гэтыя падарожжы заўсёды былі цікавыя. У сваёй маладосці Іван Гаўрылавіч пехатою абышоў увесь наш край і багата чаго ведаў з яго гісторыі. Яго аповеды часам нагадвалі жывыя імправізацыі на пэўную тэму з выхадам на канкрэтныя гістарычныя асобы. Я ведаю, што ў Горках мяне чакае невядомы аўтар "Тараса на Парнасе", у Слаўгарадзе — Пётр І і Карл XII, у Крычаве — Васіль Вашчыла і Геранім Радзівіл, у Клімавічах — высакародны разбойнік Антон Савіцкі... Расказваў пра іх Чыгрынаў любоўна, з цікавымі падрабязнасцямі і яркімі дэталямі, як звычайна расказваюць пра даўніх і добрых знаёмых.

Прызнацца, гэтая ягоная манера мяне не дужа здзіўляла: я ведаў, што празаік збіраецца грунтоўна ўзяцца за гістарычную тэматыку і, нават, аднойчы мы з ім добра пападарожнічалі па старой мапе шаснаццатага стагоддзя, якую Іван Гаўрылавіч урачыста разгарнуў перада мною ў сябе дома. У той вечар ён, як дзіця, радаваўся свайму набытку і толькі адзін раз трохі спахмурнеў, калі я вельмі ўжо ўсцешыўся, знайшоўшы свае Бялынкавічы, а яго Вялікага Бору на той карце не было.

Ва ўсякім разе тыя чыгрынаўскія імправізацыі былі невыпадковыя — неўзабаве Васіль Вашчыла і Антон Савіцкі ажылі пад ягоным пяром і сталі галоўнымі героямі цікавых п'ес.

Трэба сказаць, што яшчэ ў першай сумеснай паездцы Іван Гаўрылавіч паставіў перада мною адну ўмову. Той, хто ездзіў з Чыгрынавым, яе ведае — не балбатаць. "Калі хочаш стаць пісьменнікам, — казаў ён, — а не проста членам саюза, — глядзі, слухай і запамінай". Пісьменнікам я хацеў быць і гэтую чыгрынаўскую ўмову прымаў без агаворак.

Аднойчы ў час аднаго з такіх падарожжаў ён нечакана спытаў мяне:

— А як ты думаеш, што галоўнае для пісьменніка?

Філфакаўская навука яшчэ не выветрылася з маёй галавы і я адказаў, спасылаючыся на Гарацыя: талент, адукацыя і праца.

— Гэта добра, што ты ведаеш Гарацыя, — пахваліў Іван Гаўрылавіч, — але ж Гарацый меў на ўвазе чалавека, які хоча стаць пісьменнікам, ці не так?

— Так.

— Ну, а калі чалавек стаў пісьменнікам?

— Калі стану, тады і скажу, — смеючыся адказаў я.

— Эх, Саша, Саша, — уздыхнуў Чыгрынаў, — хоць і Гарацыя ты чытаў, а ўсё роўна нічога не ведаеш... Дык вось, брат, запомні: галоўнае для пісьменніка — добрая жонка, раніцай — кабінет, а вечарам — буфет.

Я запомніў.

І чым далей жыву на свеце, тым усё больш і больш пераконваюся ў слушнасці ягоных слоў.

## РОСНЫ МАЛІННІК



Чытаю апошнюю кнігу паэзіі Анатоля Вялюгіна "Заклён на скрутны вір", якую на нядаўняй вечарыне ў Доме літаратара Янка Брыль назваў малітоўнікам. Вельмі трапна і ёміста, як заўсёды бывае ў Брыля, вызначэнне. Многія вершы гэтай вельмі сціпла выдадзенай кніжачкі сапраўды гучаць як малітва: чыста, узнёсла і спавядальна. Вялюгінская лірыка апошніх гадоў, як і ўся ягоная творчасць, пазначана высокім майстэрствам. Яно настолькі дасканалае, што яго нават не адчуваеш, хоць разумееш, што за гэтай віртуознай лёгкасцю стаіць вялікая работа, але майстар на тое і майстар, каб умець схаваць сляды поту. Філігранная, без аніводнай фальшывай ноты радкі сведчаць пра абсалютны паэтычны слых і бездакорны густ:

**Шугавей на ноч захутаў**
**у сумёты бабчын хутар.**
**Вые нехта —**
**енк і плач.**
**Хто там,**
**мерат ці пугач?**

**Беразак у грубцы палім,**
**а на белых шыбах пальмы.**
**Яглый вый**
**усё бліжэй.**
**— Хто там?**
**— Снежны салавей.**

**Цёплы сон захмарыць позна**
**за сталом з куццёю поснай.**
**Кашаль бабкі,**
**скрып дзвярэй.**
**— Хто там?**
**— Зімні салавей.**

**Свецяць хіжа зоркі ў пушчы,**
**на дварэ сабака спушчан.**
**У зімы**
**вялікі рот —**
**воўк начуе**
**ля варот.**

*("Пiлiпаўка")*

Не, нездарма калегі і шматлікія вучні называлі яго Адміралам. Называлі паважліва, аддаючы належнае высакароднаму майстэрству.

"Заклён на скрутны вір" пісаўся пасля доўгага зацяжнога маўчання, і, можа, таму ад яго мускулістай строфікі вее нерастрачанай сілай і першароднай свежасцю.

Так пасля сонечнага дажджу пахне паветра.

Чытаючы роснае слова Анатоля Вялюгіна, хочацца верыць Мандэльштаму, які сцвярджаў, што вершы могуць вылечыць ад сухотаў.

Смакую адметную, уласцівую толькі яму, лексіку: чыстазвон, сонцавей, шугавей, вогнік, хмарачос, харашунчык і, здаецца, зноў бачу чысты і светлы воблік Майстра, яго гарэзліва прыжмуранае вока: "Ану, пшанічны вус, чытані". Анатоль Сцяпанавіч падае мне тлумачальную запіску следчаму, напісаную Людмілай Мікалаеўнай пасля пажару на дачы. Чытаю тлумачальную і адразу пазнаю руку Вялюгіна-рэдактара: ".. муж вынес мяне з ахопленага полымем дому і кінуў у росны маліннік".

Усё правільна: яго маліннік мог быць толькі росны.

Так ён бачыў.

## АПРАЎДАННЕ ЛЯНОТЫ



На пытанне, чаму верш у мяне ў асноўным лаканічны, я звычайна адказваю жартам: "Лянуюся". І пры гэтым спасылаюся на творчы вопыт Генрыха Гейнэ.

Неяк у паэта спыталі, што ён рабіў да абеду.

— Я перачытваў верш, які нядаўна напісаў, і ў адным месцы паставіў коску.

— А пасля абеду?

— Я перачытваў гэты верш яшчэ раз і закрэсліў коску, бо яна мне здалася лішняй.

У ляноце ўвесь час абвінавачвае мяне і мой блізкі сябар Уладзімір Бутрамееў.

— Ну што, — жартуе ён пры нашых нячастых сустрэчах, — думаеш вершы?

— Думаю.

— Добра паэтам, — непрытворна ўздыхае празаік і драматург, — прыдумаў пару строф дый гуляй сабе. І сумленне чыстае, нібыта сапраўды напрацаваў.

Я разумею Валодзю: ён, як некалі Гогаль, піша стоячы за канторкай, і на яго пальцах заўсёды мазалі ад пяра. А я, і гэта яму вядома, амаль ніколі не пішу — я запісваю. Паэты добра ведаюць, што часта першыя строфы прыходзяць самі, яны нараджаюцца лёгка, без усякай натугі, і дыханне іхняе натуральнае і нязмушанае. Яны, як падарунак ад Бога. Іншы раз нават здаецца, што да іхняга з'яўлення на гэты свет ты не маеш ніякага дачынення. Проста табе быў голас аднекуль **адтуль**, і ты яго ўсяго толькі падслухаў ды запісаў на чысты аркуш паперы.

Зразумела, што гэтай лёгкасці папярэднічае няпростая і вельмі напружаная, для староннягa вока непрыкметная, работа душы. І ў выніку, як сцвярджала Марына Цвятаева, лірычны прыліў прыносіць восем, шаснаццаць, рэдка дваццаць радкоў, якія яна трапна называла "каштоўнымі асколкамі".

Пасля такога прыліву мне застаецца адно — беражліва і любоўна сабраць гэтыя асколкі і цярпліва чакаць новай хвалі.

## ТЭМА КАРЦІН — САМ ЛЁС



**Нялёгкі лёс выпаў на долю Эдуарда Станіслававіча Куфко — аднаго са старэйшых і вядомых брэсцкіх мастакоў, якому нядаўна споўнілася 75 гадоў. У ёй і вайна, і нямецкі палон, і восем гадоў сталінскіх лагераў пасля Перамогі. Таму ў серыі карцін, напісаных Эдуардам Станіслававічам, дзе ёсць і героі пяцігодак, вядомыя людзі Брэстчыны, асноўнае месца займаюць работы, навеяныя фашысцкімі канцлагерамі, праз якія ён прайшоў.**

*На здымку: член Саюза мастакоў Беларусі і Польшчы Э. С. Куфко.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛТА*

## ЖЫЦЦЁ, ЖЫЦЦЁ...



**На горкі роздум наводзіць выгляд гэтай пажылай жанчыны — Варвары Фёдараўны Юрчанкі. У калгасе "Кастрычнік" Нараўлянскага раёна пасля чарнобыльскай аварыі з пяцісот працуючых засталося каля сотні чалавек, ды і то многім з іх цяпер ужо за шэсцьдзесят. Так што заняткам для іх стала маліцца за яшчэ ацалелых аднавяскоўцаў. Добра, што ў іх вёсцы Вербавічы па-ранейшаму дзейнічае царква Св. Праскоўі.**



*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

***Перадрукоўваючы з "ЛГ" нататкі Ф. Іскандэра, мы спадзяёмся, што і лімаўскі чытач з цікавасцю і карысцю для сябе прачытае іх. Само сабою, вядомы расійскі пісьменнік разважае пра лёс рускай літаратуры і пра стан расійскага грамадства, аднак жа многія ягоныя развагі і высновы праецыруюцца і на нас, з папраўкай, скажам, на тое, што пошукі намі гармоніі звязаны з нашым найвялікшым гарманічным паэтам Янкам Купалам...***

Фазіль ІСКАНДЭР

# ШЧЫРАСЦЬ ПАКАЯННЯ СПАРАДЖАЕ ЭНЕРГІЮ НАТХНЕННЯ

СВЕТ ПІСЬМЕННІКА

АДЗІН з самых чароўных успамінаў маленства — гэта асалода, якую я зведаў, калі наша настаўніца першых класаў чытала нам уголас на ўроку "Капітанскую дачку". Гэта былі шчаслівыя хвіліны, іх не так і шмат, і таму мы беражліва праносім іх праз усё жыццё. Шчаслівы той чалавек, якому пашанцавала з першай настаўніцай. Мне пашанцавала.

Аляксандра Іванаўна, мая першая настаўніца, любоў і ўдзячнасць да яе я пранёс праз усё жыццё.

Ужо сталым чалавекам я прачытаў запіскі Марыны Цвятаевай пра Пушкіна. З іх вынікае, што будучая мяцежная паэтэса, чытаючы "Капітанскую дачку", з таемнаю асалодаю ўвесь час чакала паяўлення Пугачова. Я з найвялікшай асалодаю ўвесь час чакаў паяўлення Савельіча.

Гэты заечы кажушок, гэтая амаль што бяспамятная любоў і адданасць свайму Пятрушу. Незвычайная шчымлівасць. Хіба Савельіч раб? Ды ён на самай справе гаспадар сітуацыі! Пятруша безабаронны перад усеахопнай дэспатычнай любоўю і адданасцю яму Савельіча. Ён бездапаможны перад ёю, бо ён добры чалавек і разумее, што дэспатычнасць менавіта ад любові і адданасці яму.

Яшчэ амаль дзіцем, слухаючы чытанне "Капітанскай дачкі", я адчуваў камічную перавернутасць псіхалагічных стасункаў гаспадара і служкі, дзе лёкай і ёсць сапраўдны гаспадар. Але менавіта таму, што ён бясконца адданы і любіць свайго гаспадара. Любоў — галоўней за ўсё.

Відаць, Пушкін сам сумаваў па такой любові і адданасці, можа быць, настальгічна пераапрануў Арыну Радзіёнаўну ў апраткі Савельіча.

Галоўнай і неадменнай прыкметай удачы мастацкага твора з'яўляецца жаданне вярнуцца да яго, перачытаць яго і паўтарыць асалоду. У сілу жыццёвых абставін мы можам і не вярнуцца да любімага твора, але сама надзея, мара вярнуцца да яго саграваe сэрца, надае жыццёвай сілы.

Наколькі лёгка абрабаваць, падмануць культурнага чалавека ў жыцці, настолькі цяжэй абрабаваць яго ў духоўных адносінах. Страціўшы многае, амаль усё, культурны чалавек у параўнанні са звычайным мацнейшы ў супраціўленні жыццёвым акалічнасцям. Багацце яго зберагаецца не ў скарбонцы, а ў банку сусветнага духу. І многае страціўшы, ён можа сказаць сабе і гаворыць сабе: я ж яшчэ магу слухаць Бетховена, перачытаць "Казакаў" і "Вайну і мір" Талстога. Далёка не ўсё страчана.

Чытанне Дастаеўскага ў юнацтве рабіла дзівоснае ўражанне. Я і сёння ўпэўнены, што чалавек, які прачытаў "Злачынства і пакаранне", куды менш здольны забіць іншага чалавека, чым чалавек, які не чытаў гэтага рамана. І справа не ў тым, што Дастаеўскі гаворыць пра справядлівую пакаранасць злачынства.

Справа ў тым, што Дастаеўскі ў гэтым рамане разгортвае перад нашымі вачамі грандыёзную псіхічную складанасць чалавека. Чым больш выразна мы разумеем псіхічную складанасць жывой істоты, тым цяжэй яе знішчыць.

Нармальны чалавек можа ссекчы дрэва, нейкім чынам адчуваючы шкадобу да яго, з яшчэ большым пачуццём жалю, але пераадольваючы яго, ён можа зарэзаць жывёліну, каб скарыстаць яе мяса, ды перад забойствам чалавека для нармальнага чалавека паўстае нябачная, але добра адчувальная сцяна — гэтая самая псіхічная складанасць чалавека. Чалавек занадта складаны, каб забіваць яго. Забіваючы чалавека, ты занадта многае забіваеш заадно з ім, і перш за ўсё сваю душу. Забойства чалавека — гэта ў мініяцюры знішчэнне жыцця на Зямлі. Прафесійны забойца сам псіхічна прымітыўны, амаль як жывёліна, і таму ён не бачыць вялікай розніцы паміж забойствам чалавека і жывёлы.

Аднойчы я спытаў у нашага славутага святара і багаслова Аляксандра Меня, пасля па-зверску забітага сякерай:

— Ці даводзілася вам калі-небудзь забіваць?

— Аднойчы чмяля забіў, — сказаў ён з жалем, — быў раздражнёны, а ён занадта прыставаў да мяне.

Гэта быў чалавек вялікай рэлігійнай і свецкай культуры.

Яшчэ два словы пра Дастаеўскага. Аблічча ягоных герояў як быццам слаба асветлены яшчэ далёкім, але ўжо відочным пажарам сусветнай катастрофы. І яны, ягоныя героі, інтуітыўна адчуваюць набліжэнне гэтай катастрофы, спяшаюцца, захлёбваюцца, надрываюцца, скандаляць, намагаючыся ўратаваць сваю душу ці спрабуючы, як бацька Карамазаў, абжэрціся жыццём да надыходу гэтай катастрофы. Надыходзячая катастрофа стакроць узмацняе пачуццё жыцця ў ягоных героях. Геніяльныя празарэнні суседнічаюць са смеццевым патокам слоў. У герояў Дастаеўскага занадта мала часу, каб сцісла, афарыстычна гаварыць. Занадта мала часу засталося да катастрофы, занадта шмат пытанняў яшчэ не развязана, і стан перадкатастрофнай праўды асуджае ягоных герояў на шматслоўнае захлёбванне. Інакш было б недастаткова праўдзіва.

У гэтым аснова стылістыкі Дастаеўскага. Перадкатастрофны стан герояў. Само жыццё Дастаеўскага: эшафот, катарга, чаканне прыпадкаў выпрацоўвалі яго ярасны перадкатастрофны стыль.

Увогуле свой уласны стыль ёсць абсалютная, адзіная, апошняя праўда кожнага сапраўднага пісьменніка.

Які б разумны ці красамоўны ні быў той ці іншы пісьменнік, але калі мы не адчуваем яго ўласнага стылю, які нас падхоплівае, значыць, у гэтага пісьменніка няма вышэйшай духоўнай праўды, дзеля якой ён піша. Наяўнасць уласнага стылю, уласнага почырку пісьменніка неадменна робіць праўдай яго любую фантазію. Адсутнасць уласнага стылю заўсёды робіць пустой фантазіяй любую яго праўду. Стыль немагчыма выпрацаваць штучна, як ветразь не можа выпрацаваць вецер, які яго надзьмувае. Пісьменнік можа, як Дастаеўскі і Талстой, гаварыць тысячы супярэчлівых рэчаў, але калі ўсё гэта імчыцца ў рэчышчы ягонага стылю, значыць, усё гэта праўда.

У гэтай сувязі згадаю запісаны Горкім эпізод ягонай размовы з Львом Талстым. Ручаюся толькі за сэнс.

— Страшная тая жанчына, — сказаў Талстой, — якая трымае мужа за душу.

— Але ж у "Крэйцэравай санаце", — нагадаў Горкі, намякаючы на зусім іншую матэрыю, дадзеную нам у адчуваннях, — вы мелі на ўвазе зусім супрацьлеглае месца.

— Я не зяблік, каб увесь час спяваць адну і тую ж песню, — адказаў Талстой.

Перад гэтым яны гаварылі пра зяблікаў.

УСЮ СУСВЕТНУЮ літаратуру я падзяляю на два тыпы — літаратура дому і літаратура бездамоўя. Літаратура дасягнутай гармоніі і літаратура журбы па гармоніі. Само сабою, пры гэтым якасць літаратурнага твора залежыць не ад таго, якога тыпу гэтая літаратура, а ад сілы, моцы таленту мастака.

Цікава, што ў рускай літаратуры гэтыя два тыпы мастакоў паяўляліся нярэдка ў выглядзе двайняткі, амаль адначасова.

Так, Пушкін і Лермантаў — дасягнутая гармонія (Пушкін) і вялікая журба па гармоніі (Лермантаў). Такая ж пара: Талстой — Дастаеўскі. У дваццатым стагоддзі найбольш яркая пара: Ахматава — Цвятаева.

Літаратура дому мае тую звычайную чалавечую адметнасць, што поруч з яе героямі хацелася б жыць, ты пад дахам сяброўскага дому, ты ахаваны ад сусветных бур-навальніц, ты побач з добразычлівымі, любымі гаспадарамі. І тут у гасцінным і ўтульным доме ты можаш з гаспадаром паразважаць і пра лёсы свету, і пра беды сусветных навальніц.

Літаратура бездамоўя не мае сцен, яна адкрыта насустрач сусветным навальніцам, яна як бы выпрабоўвае сябе ў варунках сапраўднай трагедыі, ты заварожаны, захоплены бачаннем бяздоння жыцця, але заўсёды жыць побач з гэтым бяздоннем ты не хочаш. Зрэшты, гэта шмат у чым залежыць ад характару чытача.

Літаратура дому — пераважна мудрасць (Пушкін, Талстой). Літаратура бездамоўя — пераважна розум (Лермантаў, Дастаеўскі).

Мудрасць адразу ахоплівае ўсё наваколле, але бачыць не так ужо далёка, бо далёка бачыць і не трэба, таму што, бачачы ўсё навакол, мудрасць пераконваецца, што чалавек усюды чалавек і страсці чалавечыя навакол аднолькавыя.

Розум мае больш вузкі кругагляд, але бачыць намнога далей. Так, Дастаеўскі разгледзеў далёкіх бесаў і ашалела паімчаўся на іх, як бык на чырвоную палатніну.

Літаратура дому заўсёды куды больш дэталізаваная, бо тут свет — дом і нельга не памацаць і не назваць любыя сэрцу творцы хатнія рэчы.

Літаратура бездамоўя куды больш дынамічная, яна прагна шукае гармонію і ў пошуках гэтай гармоніі ўвесь час паскарае крокі, што пераходзяць у подбежкі, а часам, адрываючыся ад зямлі, ляціць.

Ашалелы несутрым Дастаеўскага — і магутны запаволены рытм Талстога. Якая дынамічная Цвятаева — і якая статычная Ахматава! І абедзьв — вялікія паэты. Ахматава — літаратура дому, Цвятаева — літаратура бездамоўя. І адразу, з ранняга юнацтва вызначылася такой, хоць нарадзілася і жыла ва ўтульным прафесарскім доме.

Абодва паэты — людзі трагічнага лёсу. Але адна з іх адразу стала паэтам дому, а другая — паэтам бездамоўя.

У пэўнай ступені Ахматава і Цвятаева выступаюць у дваццатым стагоддзі ў ролі Пушкіна і Лермантава. І мы быццам здагадваемся, што калі б не ракавыя акалічнасці, Пушкін пражыў бы доўгае жыццё і памёр бы сваёю смерцю. Лермантаў таксама пражыў бы значна даўжэй, але трагічны канец яго быў прадвызначаны.

Вядома, у зусім чыстым выглядзе гэтыя два тыпы літаратуры амаль не існуюць. Але як дзве магутныя схільнасці яны рэальныя. Яны неабходны адзін аднаму і будуць існаваць вечна.

У ГІСТОРЫІ развіцця сусветнай культуры ёсць загадкавыя з'явы. Адной з такіх з'яў я лічу наяўнасць у магаметанскім свеце вялікай паэзіі, але адсутнасць, прынамсі, да апошняга часу, вялікай прозы.

Мы, напрыклад, ведаем, наколькі багатая персідская паэзія, але дзе ж проза? Дзе вялікі псіхалагічны раман?

Я мяркую, рэч у хрысціянскай аснове еўрапейскага мастацтва. Хоць Талстой пісаў, што ўсе рэлігіі гавораць адно і тое ж, але ўсё-такі ў кожнай ёсць сваё істотнае адценне.

Хрысціянства надае выключную важнасць жыццю чалавечай душы. Увесь чалавек — гэта душа. Альбо чалавек чысцінёй сваёй душы дамагаецца яе бессмяротнасці, альбо губіць сваю душу грахоўным жыццём, альбо, усвядоміўшы свой грэх, праз пакаянне дамагаецца выздараўлення душы. Хрысціянства ў сваёй аснове ў Евангеллі ўжо разгледзела ўсе камбінацыі душэўнага жыцця чалавека і шляхі яго выратавання.

Хрысціянская культура ў яе літаратурным развіцці ніяк не магла не прасякнуцца гэтай асновай хрысціянскай думкі. Але як выразіць у апавяданні ці рамане стан чалавечай душы? Адзіны сродак — адлюстраваць псіхічнае

жыццё чалавека. Па-за паказам псіхічнага жыцця чалавека немагчыма зразумець ягоную душу. Паступова гэта стала літаратурнай традыцыяй, і ў дзевятнаццатым стагоддзі яна дасягнула поўнага развіцця ў еўрапейскім і рускім псіхалагічным рамане ці апавяданні. І ўжо таленавітыя, але атэістычна настроеныя пісьменнікі не маглі абысціся без глыбокага паказу псіхічнага жыцця чалавека. Такі наш Чэхаў. Будучы атэістам, ён чыста музычна ўлавіў і цудоўна зафіксаваў уздзеянне евангельскага сюжэта на простага чалавека. І ўся сур'ёзная руская і еўрапейская літаратура — гэта бясконцы каментарый да Евангелля. І каментарыю гэтаму ніколі не будзе канца. Усе псеўданаватарскія спробы абысціся без этычнага напружання, без разумення, дзе верх, а дзе ніз, дзе дабро, дзе зло, асуджаны на правал і забыццё, таму што справа мастака — выцягваць воляй да дабра з хаосу жыцця ясны сэнс, а не дадаваць да хаосу жыцця хаос сваёй уласнай душы.

Мы кажам: гэтая карціна паэтычная, гэтае апавяданне (альбо верш) паэтычнае. Але што гэта азначае? Вядома, гэта азначае, што яны таленавітыя. Але ў чым сутнасць самога таленту? Талент невытлумачальны, як Бог, але Бог вытлумачальны невытлумачальнасцю таленту.

Сутнасць, на мой погляд, у тым, што сапраўдны талент тую ці іншую карціну жыцця ўмее асвятліць святлом вечнасці, умее вырваць з жыцця і паказаць яе на фоне вечнасці. Мы радуемся такому мастацкаму твору, часта не ўсведамляючы прычыны радасці. Мы кажам сабе: "Як жыва! Як дакладна! Як праўдзіва!"

І ўсё гэта праўда, але не да канца. На самай справе нас захапляе гэтая жывасць, праўдзівасць, дакладнасць таму, што ўсё гэта прасвечваецца праз вечнасць. Нас радуе і абнадзейвае дваякасць яе існавання. Карціна нас радуе тут, таму што адначасова там. Яна роўна настолькі радуе тут, наколькі яна там.

Мы адчуваем, што прыгажосць вечная, што душа бессмяротная, і наша ўласная душа радуецца такому шанцу. Мастак нас суцяшае праўдай свайго мастацтва. У мастацтва дзве тэмы: заклік і суцяшэнне. Але ў канчатковым выніку і заклік ёсць форма суцяшэння.

Калі лёгка зразумець, чаму нас захапляе талстоўская Наташа, як вечная жаноцкасць, здавалася б, цяжэй зразумець, чаму такі прайдзісвет, як Наздроў, нас таксама па-свойму радуе, мы рагочам, як праўдзіва яго Гогаль малюе.

Мы адчуваем, што чалавечае глупства ў асобе Наздрова таксама вечнае і асуджана на вечнае мастацкае, а не проста баечнае выкрыццё.

Некалькі разоў у жыцці, сустракаючы прайдошнага жуліка, які спрабаваў мне штосьці навязаць, я пачынаў узрывацца ад абурэння і нечакана згадваў: Божа мой, дык гэта ж Наздроў, як дакладна ён яго паўтарае!

І як гэта ні дзіўна, сіла абурэння слабела, я толькі спрабаваў адчапіцца ад яго, што было таксама нялёгка, таму што сам наваяўлены Наздроў не разумеў, што я ўжо ўгадаў у ім Наздрова. Усё гэта рабілася смешным, таму што наваяўлены Наздроў, не разумеючы, што ён ужо выкрыты, упарціўся, і чым больш упарціўся ў машэнніцтве, тым больш фенаменальным рабілася яго падабенства з ужо даўно апісаным Наздровым.

Геніяльны стваральнік чалавечых тыпаў быццам угадвае вечны хімічны склад гэтага тыпу, які прымушае яго ў любых гістарычных акалічнасцях дзейнічаць аднолькава. Божа мой, думаем мы, там прыгоннае права, а тут сацыялізм ці камунізм, а Наздроў усё той жа.

Наша веданне Гогаля — гэта частка нашай культуры, і, як бачым, веданне культуры суцяшае. Мы кажам сабе: гэта Наздроў, а Наздровы знікнуць. Сацыяльная крытыка таго часу зусім памылкова вырашыла, што Гогаль стварыў сатыру на прыгонніцкую Расію. На самай справе Гогаль калі ў "Мёртвых душах" і стварыў сатыру, дык гэта сатыра на ўсё чалавецтва, хоць чалавечыя тыпы, натуральна, як у рускага пісьменніка ў яго маюць нацыянальную фізіяномію.

Вечнасць, у якую змясціў сваіх герояў Гогаль, мы адчуваем як магутнае маральнае неба, пад якім ягоныя героі бачацца асабліва прыплюснутымі і смехатворнымі. Але чытач увесь час адчувае ўнутры твораў Гогаля гэтае магутнае маральнае неба і ў канчатковым выніку смяецца, але і шкадуе іх.

У другога нашага славутага сатырыка, у Зошчанкі, мы не адчуваем, ды і сам ён не бачыць, ніякага маральнага неба над галавой сваіх герояў. Таму ягоныя творы ўспрымаюцца як вельмі тонка белетрызаваныя навуковыя нарысы, штосьці накшталт антыдарвінізму, неверагодна смешныя аповяды аб ператварэнні чалавека ў малпу. Безнадзейнасць у Зошчанкі настолькі вялікая, што перастае быць нават песімізмам, які, шкадуючы пра аддаленасць чалавека ад полюса дабра, усё-такі прызнае ягоную двухполюснасць.

Я ХАЧУ выказаць здагадку, якая можа падацца парадаксальнай. Геній нацыі самым слабым, адсталым формам нацыянальнага жыцця надае самы квітнеючы выгляд. У гэтым, можа быць, падсвядома сказваецца высакародны пафас лячэння нацыі, калі гэта наогул магчыма.

Думаю, што ў агульнай гістарычнай перспектыве гэта магчыма. Вялікі гуманістычны пафас рускай класічнай літаратуры агульнапрызнаны. Томас Ман назваў рускую літаратуру святой. Але ці не ёсць гэта рэакцыя нацыянальнага генія на жорсткасць расійскага жыцця, спробы лячэння яго?

Вялікая нямецкая філасофія і вялікая нямецкая музыка, самыя паднябесныя формы культуры, ці не ёсць рэакцыя на занадта практычнае, прыземленае нямецкае жыццё?

Славуты цвярозы французскі розум, тое, што Блок назваў "востры гальскі сэнс", ці не ёсць рэакцыя на французскае легкадумства?

Нацыянальны геній быццам гаворыць сваёй нацыі: "Падымайся! Гэта магчыма. Я ж паказаў, што гэта магчыма!"

Сярэдняму чалавеку любой нацыі можна сказаць: "Скажы, хто твой нацыянальны геній, і скажу, хто ты". Толькі наадварот.

Нацыянальны геній валодае яшчэ адной парадаксальнай уласцівасцю. Як французы паўплывалі на Пушкіна — мы ведаем. Як Шылер паўплываў на Дастаеўскага — мы ведаем. Як Дастаеўскі паўплываў на ўсю навейшую сусветную літаратуру — мы ведаем.

Каб выспеў вялікі нацыянальны пісьменнік, неабходна каб ён прайшоў міжнацыянальнае перакрыжаванае апыленне. Аказваецца, папярэдняй умовай паглыбленага нацыянальнага самапазнання з'яўляецца веданне чужога, прывіўка чужога. Існаванне нацыянальнага генія даказвае, што народы павінны імкнуцца да збліжэння. Тое, што ліберальная палітыка (думка аб збліжэнні народаў) імкнецца даказаць рытарычна, культура на практыцы ўжо даўно даказала.

СЛОВА ПАЭТА валодае таемнай, містычнай уладай над ім і ягоным лёсам. Згадваючы вершы рускіх паэтаў першага шэрагу, я не магу назваць ніводнага, хто б пісаў пра самазабойства. Нікога, акрамя Маякоўскага, Ясеніна і Цвятаевай. І ўсе трое скончылі жыццё самагубствам.

Якая сувязь паміж паэтычным словам і жыццём паэта? Відаць, велізарная, але да канца зразумець яе мы не можам. Матэрыялістычна гэта можна вытлумачыць так: гэтыя трагічныя паэты занадта часта завісалі над безданню і рана ці позна павінны былі па тэорыі верагоднасці сарвацца ў яе. І сарваліся. Мне здаецца, такое вытлумачэнне недастаткова пераканаўчае. Больш трагічны лёс, чым у Дастаеўскага, цяжка ўявіць. Ён не толькі часам, але ўсё жыццё свядома павісаў над безданню, аднак скончыць з жыццём ніколі не імкнуўся. Ён заўзята вывучаў бездань, дакладна ведаючы, што чалавецтва неўзабаве само павісне над ёю. І ён, вывучаючы бездань, шукаў сродак уратаваць яго.

У паэта, як у любога чалавека, можа ўзнікнуць нясцерпны боль, агіда да жыцця, жаданне скончыць з гэтым болем. Але, пэўна, ёсць грандыёзная розніца паміж жаданнем скончыць з гэтым жыццём і яго зафіксаванасцю ў паэтычным творы. Д'ябал хапае гэты верш і бяжыць да свайго начальства, як з даведкай: "Вось ягоны подпіс! Ён сам захацеў!" Д'ябал наогул любіць даведкі.

Слова паэта ёсць яго справа. Зафіксаваўшы ў вершы жаданне пайсці з гэтага жыцця і працягваючы жыць, паэт падсвядома ператвараецца ў ганебнага неплацельшчыка свайго доўгу. І сумленне рана ці позна выбухае: пішу адно, а жыву па-іншаму. Выйсце тут толькі адно: пакаянны праклён таго ракавога верша, але праклён таксама зафіксаваны ў паэтычным творы.

А яшчэ лепш ніколі паэтычна не фіксаваць жаданне смерці ні родным, ні радзіме, нікому. Нават калі такое жаданне ўзнікае.

Атрымліваецца, я выступаю супраць шчырасці паэта? Так, я выступаю супраць грахоўнай шчырасці паэта. Няшчырасць заўсёды агідная. Але часам і шчырасць агідная, калі яна грахоўная.

Калі жыццё ўяўляецца немагчымым, ёсць больш мужнае рашэнне, чым адыход з жыцця. Чалавек павінен сказаць сабе: калі жыццё сапраўды немагчымае, дык яно спыніцца само. А калі яно не спыняецца, значыць, трэба ператрываць боль.

Так суджана. Кожны, хто ператрываў вялікі боль, ведае, з якой надзвычайнай свежасцю пасля гэтага яму раскрываецца жыццё. Гэта дар самога жыцця за вернасць яму, а можа быць, нават ухвальны ківок Бога.

У сувязі з усім гэтым я хацеў колькі слоў сказаць пра так званы срэбраны век рускай літаратуры. У нас яго зараз бязмежна захвалілі. Вядома, у той час жылі вялікі Блок, вялікі Бунін, дарэчы, які зведваў прароцкую агіду да гэтага срэбранага веку, былі і іншыя таленавітыя пісьменнікі.

Але срэбраны век прынёс нашай культуры, нашаму народу невымерна больш зла, чым дабра. Гэта быў час самай раз'ятранай страсці да ўсёдазволенасці, да нікчэмнай містыкі, да смакавання чалавечых слабасцей, а галоўнае — усепаглынальнай цікаўнасці да зла, нават нібыта самаахвярных заклікаў да д'ябальскай сілы, якая паўстане і ўсё знішчыць.

Самы шчыры і, напэўна, самы моцны верш Брусава "Будучыя гуны" цудоўна дэманструе ідэалогію срэбранага веку.

"Где вы, грядущие гунны, /Что тучей нависли над миром!/ Слышу ваш топот чугунный/ По еще неоткрытым Памирам".

І канчаецца верш так:

"Бесследно все сгибнет, быть может, / Что ведомо было одним нам./ Но вас, кто меня уничтожит, /Встречаю приветственным гимном!"

Які самазабойчы гімн, які складаны чалавек, у захапленні думалі многія чытачы таго часу. А Брусаў жа — чалавек, хоць і таленавіты, зусім нескладаны, а, наадварот, прымітыўны і нават з прымітыўнай хітрасцю, што гуны ўлічаць яго гімн. І гуны, з'явіўшыся, сапраўды ўлічылі гэты гімн і самога Брусава пашкадавалі і нават трошкі ўзвялічылі яго.

ПАГАВОРЫМ пра гідлівасць. Тэма гэтая ў сённяшняй Расіі асабліва актуальная. Адкуль яна наогул узялася?

Уявім сабе місіянера на стаянцы дзікуна. Той ужо авалодаў агнём і настолькі цывілізаваны, што есць смажанае мяса. Ён прагавіта адпраўляе ў рот гарачыя кавалкі. Ці то ад дыму, ці то ад прастуды ў яго раптам пацякло з носа. Дзікун адчуў пад носам непрыемнае казытанне і, каб спыніць гэтае казытанне, не перапыняючы прыемнага занятку, мазануў пад носам чарговым кавалкам мяса і ўкінуў яго ў рот.

І тут наш місіянер спрабуе яму растлумачыць, што ён непрыгожа робіць. Ён зрывае шырокі ліст з куста паблізу, набліжае яго да ўласнага носа (насоўка занадта складана) і паказвае, як трэба было зрабіць. Дзікун уважліва выслухоўвае яго і нечакана з сакрушальнай разумнасцю кажа:

— Але ж гэта не мяняе смаку падсмажанага мяса!

І на самай справе, місіянер вымушаны прызнаць, што для дзікуна гэта не мяняе смаку падсмажанага мяса.

Гідлівасць — плён цывілізацыі і культуры. Гэта лёгка пацвярджаецца на прыкладзе дзіцяці. Малое дзіця ў стане паўразумнасці, як малы дзікун, цягне ў рот усё, што трапляе яму пад руку. Пазней, навучанае акаляючымі людзьмі, яно засвойвае ўзровень гідлівасці свайго часу.

Як наглядна, што фізічная гідлівасць чалавека развіваецца разам з цывілізацыяй, і якая драма чалавецтва, што маральная гідлівасць развіваецца куды больш павольна, хоць і само яе развіццё многім можа падацца спрэчным.

Але я мяркую, што маральная гідлівасць у чалавеку развівалася разам з рэлігіяй і культурай. Ці не абавязаны мы найбольш Евангеллю за тую гідлівасць, агіду, што зведваем да здрады? Вобраз Юды стаў назыўным. І хоць плынь даносаў досыць моцная дагэтуль, але ці не была б яна яшчэ больш моцная, калі б людзі не скаланаліся, упадабляючы сябе Юду?

Сапраўдны мастацкі твор не можа абысціся без этычнага напружання. Чытаючы сапраўдную літаратуру, мы не толькі наталяемся прыгажосцю, але і міжволі развіваем у сябе маральныя мускулы. І ў гэтым, груба кажучы, практычная карысць культуры.

Але культура хавае ў сабе сваю трагедыю. Да тых, каму яна найбольш патрэбна, да шырокіх народных мас, яна даходзіць марудна, занадта марудна. Такое ўражанне, што самая малая доза культуры стварае ў народзе насычаны раствор і ўсё астатняе выпадае ў асадак. Культурай пераважна карыстаюцца культурныя людзі, і атрымліваецца, што культура сама сябе з'ядае. У гэтым яе трагедыя. Як яе пераадолець — пытанне грандыёзнай складанасці, якое абавязана спрабаваць развязаць грамадства ў цэлым і дзяржава.

ВОСЬ МАТЭМАТЫЧНАЕ вызначэнне таленту. Талент — гэта колькасць кантактных кропак судакранання з чытачом на адзінку літаратурнай плошчы. Анегінская страфа дае нам найбольшую колькасць кантактных кропак, і менавіта таму "Яўгеній Анегін" — самая геніяльная паэма рускай літаратуры.

Пушкін нам даў выключнае па дакладнасці апісанне самога стану натхнення. Але адкуль яно бярэцца, ён не сказаў.

Я скажу проста: натхненне ёсць узнагарода за ахвярную шчырасць мастака. Вернік удакладніў бы — узнагарода Бога. Атэіст сказаў бы: узнагарода нашай маральнай прыроды. На што вернік мог бы запытаць: а адкуль узялася наша маральная прырода? Ды гэтая спрэчка вечная.

Калі перад намі сапраўды таленавіты твор, гэта заўсёды суб'ектыўна сумленна, але ахоп ісціны залежыць і ад сілы таленту, і ведання прадмета, і таго ідэалу сумленнасці, які выпрацаваны гэтым пісьменнікам. Натхненне ўскідвае пісьменніка на вяршыню яго ідэалу. Але вяршыні ідэалу Льва Талстога ці проста добрага пісьменніка Пісемскага знаходзяцца на розным узроўні, і тут наша ўласная сумленнасць у вымярэнні іх дасягненняў павінна ўлічваць гэта. Талстой са сваёй вышыні бачыць усіх і таму бачны ўсім. Проста здольны пісьменнік са сваёй вышыні таксама бачыць сёе-тое і бачны некаторым людзям. Больш за тое, паасобныя часткі агляднага ландшафту здольны пісьменнік можа бачыць лепш за генія. Толькі баюся, што гэтае маё суцяшэнне не спыніла б Сальеры. Крайнасць.

Натхненне можа памыляцца, але яно не можа хлусіць. Скажу больш дакладна, усё сапраўды натхнёнае заўсёды ісцінна праўдзівае, але адрасат можа быць памылковым. Уявім сабе паэта, які напісаў геніяльны верш пра жыватворную разумнасць руху сваціла з усходу на захад. Ці можам мы зведваць асалоду ад гэтага верша, ведаючы, што ён не адпавядае законам астраноміі? Безумоўна, можам! Мы захапляемся пластыкай апісання летняга дня, мы нават захапляемся чароўнасцю даверлівасці паэта: як бачыць, так і спявае!

Такія памылкі бываюць, але яны параўнаўча рэдкія, таму што натхненне наогул ёсць апантанасць ісцінай, і ў момант натхнення мастак бачыць ісціну з усёй даступнай яму паўнатой. Але апантанасць ісцінай часцей за ўсё прыходзіць да таго, хто найбольш пра яе думае.

Я скажу такую рэч: існуе вартая жалю думка, што, сядаючы пісаць, трэба пісаць сумленна. Калі мы сядаем з думкаю пісаць сумленна, мы позна задумаліся аб сумленнасці: цягнік пайшоў ужо.

Я мяркую, што для пісьменніка, як, пэўна, для кожнага мастака, першым галоўнейшым актам творчасці з'яўляецца само жыццё яго. Такім чынам, пісьменнік, сядаючы пісаць, толькі дапісвае ўжо напісанае ягоным жыццём. Напісанае яго асабістым жыццём ужо прадвызначыла сюжэт і героя ў першым акце яго творчасці. Далей можна толькі дапісваць.

Пісьменнік не толькі, як і кожны чалавек, стварае ў сваёй галаве вобраз свайго светаразумення, але неадменна ўзнаўляе яго на паперы. Нічога іншага ён узнавіць не можа. Усё іншае — хадулі альбо чужая чарніліца. Гэта адразу відаць, і мы кажам — гэта не мастак.

Таму сапраўдны мастак інтуітыўна, а пасля і свядома будуе сваё светаразуменне, як волю да дабра, як бясконцы працэс самаачышчэння і ачышчэння навакольнага асяроддзя. І гэта ёсць нарошчванне этычнага пафасу, заробленае ўласным жыццём. І іншай крыніцы энергіі ў пісьменніка проста няма.

Віктар Шклоўскі недзе пісаў, што звычайны чалавек проста фізічна не змог бы за сваё жыццё столькі разоў перапісаць "Вайну і мір". Вядома, не змог бы, таму што ў звычайнага чалавека не было такога грандыёзнага першага акту творчасці, як жыццё Талстога, што спарадзіла гэтую энергію.

Жывому чалавеку ўласціва памыляцца, спатыкацца. Натуральна, гэта ўласціва і пісьменніку. Ці можа жыццё пісьменніка, якое ў першым акце самога жыцця прайшло як памылка і заблуджэнне, стаць прадметам адлюстравання ў другім акце творчасці на паперы?

Можа толькі ў тым выпадку, калі другі акт ёсць пакаяннае апісанне гэтага заблуджэння. Шчырасць пакаяння і спараджае энергію натхнення. Я б нічога не меў і супраць загадзя запланаванага заблуджэння, але гэта пусты нумар, пры гэтым не выдзяляецца творчай энергіі.

У РАСІІ ЖЫЎ адзін з самых гарманічных паэтаў свету — Пушкін. Больш ніколі не паўторанае ў нас — вялікая і мудрая пушкінская раўнавага. Аднак гармонія ў расійскім жыцці пакуль аніяк не ўдаецца. І ніколі не ўдавалася. Быў, кажуць, Пётр Вялікі. Можа быць, геній, але як чалавек — увасабленне самых крайніх крайнасцей. І не было аніводнага гарманічнага цара, не кажучы пра генсекаў.

Зрэшты, здаецца, пры Екацярыне пазначылася нейкая раўнавага: звяла на той свет мужа, але ўвяла бульбу. Гэтая наша вучоная Грэтхен вельмі любіла военачальнікаў і моцна набліжала іх да сябе. Увогуле пры Екацярыне кожны смелы ваенны чалавек меў шанец быць моцна набліжаным. Можа быць, таму, кажуць, Расія пры Екацярыне вяла самыя ўдачлівыя войны. Яна ўвяла ў арміі прынцып асабістай зацікаўленасці. Не, мудрай пушкінскай раўнавагі і тут не атрымліваецца.

Як жа так? У Расіі быў найвялікшы гарманічны паэт, а гармоніі ніколі не было. Але калі Пушкін быў у Расіі, значыць, гармонія ў Расіі ў прынцыпе магчыма. Чаму ж яе няма? Выходзіць, мы кепска чыталі Пушкіна. Асабліва палітыкі.

Я б прапанаваў у парадку жарту, падобнага на праўду, будучым палітычным дзеячам Расіі, паклаўшы руку на томік Пушкіна, даваць клятву народу, што перад кожным сур'ёзным палітычным рашэннем яны будуць перачытваць Пушкіна, каб прывесці сябе ў стан мудрай пушкінскай раўнавагі.

Усё астатняе мы ўжо зведалі: палацавыя перавароты з задушэннем манарха, рэформы, контррэформы, рэвалюцыі, контррэвалюцыі, — нічога не памагае, няма гармоніі ў расійскім жыцці.

Пушкін — наш апошні шанц. І калі мы яшчэ часам здольныя жартаваць — гэта таксама Пушкін.

*("Литературная газета", 7. П. 96. N 6 (5588))*

**_У Лондане на англійскай мове выйшаў у свет першы нумар новай серыі “Неперыядычныя вучоныя запіскі беларускіх даследаванняў” (Occasional Papers in Belarusian Studies. School of Slavonic and East European Studies. University of London. N 1, 1995 г.). Ён з’яўляецца працягам спыненага ў 1988 годзе (том VI, N 1) выдання “Часопіса беларускіх даследаванняў”. У ім змешчаны артыкулы і рэцэнзіі па пытаннях беларускай мовы, літаратуры і гісторыі, у якіх разглядаюцца праблемы грамадскага, культурнага і навуковага характару ў розныя перыяды гісторыі Беларусі. І хоць складальнікі і рэдактары “Запісак” не моваведы — прафесар Лонданскага універсітэта Арнольд Макмілін спецыяліст па рускай і беларускай літаратуры, а яго калега Джэймс Дынглі — выкладчык гісторыі ў тым жа універсітэце, — але яны ўлавілі подых часу — тут пераважае мовазнаўчы матэрыял._**

# У АНГЛІІ ДУМАЮЦЬ ПРА БЕЛАРУСЬ...

Так, Валянціна Ду Ф’ю, выкладчыца славянскіх моў ва універсітэце Усходняй Англіі, у артыкуле “Тры літаратурныя мовы Беларусі” разглядае працэс развіцця беларускай літаратурнай мовы ва ўзаемадзеянні з царкоўнаславянскай і польскай на розных этапах яе развіцця. Даследчыца ўстанаўлівае, што генетычна размоўны характар народнай старабеларускай мовы, яе рухомасць робяць яе гнуткай, што дазваляе ёй асіміляваць некаторыя элементы гэтых кантактных з ёю моў. Другое пытанне, якое разглядаецца Ф’ю, гэта праблема ўзаемаадносін паміж старой беларускай літаратурнай мовай і новай літаратурнай мовай. Даследчыца лічыць, што, нягледзячы на разрыў працэсу развіцця беларускай літаратурнай мовы ў XVIII ст., агульная літаратурная прастора захоўваецца. І сённяшняя беларуская літаратурная мова, на яе думку, з’яўляецца адзінай. Наогул, як лічыць Ф’ю, літаратурная мова не ёсць лінгвістычны феномен, а форма культурнага яднання нацыі.

Да моўнай мінуўшчыны звяртаецца таксама вядомы ізраільскі славіст прафесар лінгвістыкі Тэльавіўскага універсітэта Поль Векслер, які разглядае працу Машэ Альтбаўэра пра пяць біблейскіх спісаў 16 ст. у перакладзе з яўрэйскай на беларускую мову, знойдзеныя Альтбаўэрам у Віленскім архіве пад шыфрам “Codex 262”. Глыбока прааналізаваўшы працу Альбаўэра і паказаўшы вялікую навуковую і культурную каштоўнасць разгледжанага ў ёй пісьмовага помніка, П. Векслер адзначае, што гэты рукапіс уяўляе сабой высокі ўзор “яўрэйска-беларускага калькавага перакладу”, што, на яго думку, будзе садзейнічаць вывучэнню гістарычных яўрэйска-беларускіх узаемаадносін, што гэта адзін з рэдкіх узораў тагачаснай “ранняй беларускай гутарковай мовы”, які з’явіцца каштоўным матэрыялам у даследаваннях па беларускай лексікалогіі. Нароўні з іншымі тагачаснымі, па словах рэцэнзента, “Беларусіянамі” — хрысціянскім перакладам Скарыны і татарскімі перакладамі мусульманскай рэлігіі - “Codex 262” стаіць як манумент экуменічнай атмасферы Беларусі XVI ст.”

У другой змешчанай тут жа рэцэнзіі на кнігу А. Міхневіча “Русский язык в Белоруссии” (Мінск, “Наука и техника” 1985) крытычнае стаўленне прафесара славянскіх моў і літаратур універсітэта Глазга ў Вялікабрытаніі Міхаіла Кірквуда ў першую чаргу можна тлумачыць русіфікатарскай палітыкай, якая праводзілася ў тыя часы ў Беларусі (прыгадаем адсутнасць школ з беларускай мовай навучання ў сталіцы рэспублікі і пазакласныя 15 хвілін на вывучэнне беларускай мовы). Рэцэнзент, між іншым, адзначае, што кніга мала ўносіць у яго разуменне аб ступені ўзаемнага ўплыву рускай і беларускай моў, а таксама ў веды аб ступені распаўсюджання і пашырэння рускай мовы ў Беларусі. У заключэнне аўтар адзначае: “Можна было б прывесці доказы, што кніга ў скажоным святле прадстаўляе ступень ужывання рускай мовы ў Беларусі”.

Дэвід Сандэрс, выкладчык гісторыі Ньюкаслскага універсітэта, у артыкуле “Мікалай Пятровіч Румянцаў і рускае адкрыццё Беларусі” ставіць пытанне: калі і чаму рускія ўсвядомілі розніцу паміж рознымі славянскімі народамі, у прыватнасці, паміж беларускім, польскім і украінскім? І, спасылаўшыся на думку Бяссонава, выказаную ў прадмове да зборніка беларускіх песень, апублікаванага ў 1871 г., Сандэрс сцвярджае: рускія адкрылі Беларусь у канцы 18-га і пачатку 19-га ст. Далей, характарызуючы каланіяльную палітыку Расіі ў Беларусі, Сандэрс ставіць пытанне: чаму граф М. Румянцаў зацікавіўся рускім “адкрыццём” Беларусі? Таму што, адказвае аўтар, яго бацька ў 1776 г. атрымаў вялізны маёнтак у Гомелі. З гэтага часу сям’я Румянцава фізічна была звязана з Беларуссю. Энтузіяст і мецэнат у справе збірання славянскіх старажытнасцей, Румянцаў, як вядома, згуртаваў вакол сябе групу вучоных, якая ў гісторыі славістыкі названа гуртком Румянцава. Сярод іх адной з бясспрэчна відных беларускіх фігур быў Іван Грыгаровіч, сын мясцовага свяшчэнніка, які пры падтрымцы Румянцава падрыхтаваў І-шы і 2-гі тамы так званага “Беларускага архіва старажытных грамат” і планаваў стварэнне 3-га тома, які так і не пабачыў свету. Сандэрс упамінае ў сваім артыкуле і іншых дзеячаў Румянцаўскага гуртка — Івана Лабойку і іншых, што праяўлялі вялікую цікавасць да “Беларускага архіва”, які адыграў значную ролю ў прызнанні беларускай мовы як адной са славянскіх моў. Але гэта адбылося пазней. Каля 1850 г., як адзначае аўтар, толькі нямногія прадстаўнікі ўсходняй славянскай інтэлігенцыі адчувалі, што беларуская, руская і украінская мовы з’яўляюцца асобнымі мовамі, некаторыя ж сцвярджалі, што беларуская і украінская мовы — гэта толькі дыялекты. Грыгаровіч яшчэ паміж 1846 і 1851 гг. пад кіраўніцтвам Археаграфічнай камісіі працягваў працу на карысць Беларусі, выдаўшы чатыры тамы “Актаў, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Русі”, а не “Заходняй Беларусі”, як памылкова адзначана ў Запісках (с. 60). Апошні, чацвёрты том гэтай працы з’явіўся за год да смерці Грыгаровіча. Далей аўтар піша: “Яго патрон, Мікалай Румянцаў, сын і ўнук рускіх генералаў, дыпламат і “вэстэрнізаваны” арыстакрат, як гэта ні парадаксальна, з’явіўся спонсарам Беларускага адраджэння. У старым будынку Цэнтральнай бібліятэкі Расіі пад гербавым шчытам роду Румянцавых змешчаны надпіс: “Non solum armis” (“Не толькі рукамі”). І каб апраўдаць гэты сямейны дэвіз, Румянцаў жыў думкай аб духоўным укладзе ў станаўленне беларускай нацыі, такімі патэтычнымі словамі аўтар заканчвае свой артыкул.

Гістарычнай праблематыцы прысвечаны таксама даследаванне Алены Латышонак “Студэнты з Вялікага княства Літоўскага перад рэктарскім судом Кракаўскага універсітэта ў 1469—1536”. Праглядаючы акты рэктарскага суда, аўтар сустракае шматлікія прозвішчы беларусаў, якія навучаліся ў Кракаўскім універсітэце ў час найбольшага росквіту гэтай вучэбнай установы. Гэта была тая эпоха і тыя людзі, як піша даследчыца, калі і сярод якіх жыў Францішак Скарына. І працягвае — “у Кракаве, у яго універсітэцкіх колах беларускія студэнты ўспрымалі ідэі рэнесансу, якія затым везлі назад у сваю родную краіну”.

Літаратуразнаўца Ніна Тэйлар, навуковец з Оксфарда, разглядае “Беларускія краявіды ў раманах Тадэвуша Канвіцкага”, які разам з паэтам Чэславам Мілашам лічыцца ў сучаснай польскай літаратуры найбольш значным прадстаўніком беларуска-літоўска-польскіх традыцый. Канвіцкі нарадзіўся ў 1926 г. у Новай Вілейцы (зараз прыгарад Вільні). Бацька яго памёр, калі Тадэвушу было тры гады, маці прыходзілася цяжка працаваць, і Канвіцкі выхоўваўся пры падтрымцы суродзічаў. Роднай ракой яго дзяцінства была Вілейка. Аўтар падрабязна спыняецца на юнацкіх гадах Канвіцкага, яго пакутах у часе вайны і ў пасляваенныя гады, на станаўленні яго як пісьменніка. Асноўная частка артыкула прысвечана апісанню Канвіцкім розных мясцін Беларусі (Маладзечна, Вілейка, Гудагай, Ашмяны, Ліда і шмат іншых) і яе жыхароў, да якіх аўтар адносіцца з асаблівай цеплынёй і замілаваннем. Не будзем пералічаць усіх беларускіх краявідаў, з вялікім пачуццём любові апісаных Тадэвушам Канвіцкім, з якімі пры жаданні чытач можа азнаёміцца, прачытаўшы артыкул Н. Тэйлар, а яшчэ лепш — самі творы пісьменніка. Працытуем толькі адно са шматлікіх месц яго твора “Каляндар і пясочны гадзіннік”, у якім Канвіцкі прысягае Беларусі ў адданасці і вернасці. “Беларусь, Беларусь. Чаму цябе завуць Беларусь, калі няма нічога белага навокал цябе, калі твая бель — гэта рудое іржышча на восеньскіх палях, калі твая бель - гэта нізкі шэрага адзення, расцягнутага на сонцы па полі, калі твая бель — гэта гарачы пот стомленых людзей. Вы, беларусы, павінны звацца Дабрарусамі, а ваша краіна — Добрай Зямлёй Добрых Людзей. Беларусь, Беларусь шэра-зялёная з прасторай нябёсаў над вашымі саламянымі галовамі, вельмі добрымі, празмерна пакорлівымі, занадта вялікадушнымі для нашага часу”.

Складзены ў асноўным з артыкулаў актуальнай тэматыкі, рэцэнзуемы зборнік з’яўляецца важкім укладам у беларусазнаўства. І тое, што ў ім прэваліруюць пытанні беларускай мовы і беларускага мовазнаўства, сведчыць аб тым, што ўкладальнікі глыбока адчуваюць актуальнасць гэтай праблематыкі ў нашыя дні. З усёй патрабавальнасцю аднесліся яны і да навуковага ўзроўню змешчаных тут публікацый. У прадмове да тома яны запрашаюць вучоных усіх профіляў незалежна ад іх палітычнай арыентацыі прыняць удзел на старонках наступных тамоў “Вучоных запісак”, але пры ўмове дастаткова высокага акадэмічнага ўзроўню прапануемых імі даследаванняў. Рэдактары выказваюць спадзяванне, што новая серыя будзе адлюстроўваць новую сітуацыю ў Беларусі як незалежнай дзяржаве і адыгрываць важную ролю ў распаўсюджанні навуковай інфармацыі ва ўсіх аспектах гісторыі, культуры і наогул сучаснага жыцця краіны. Аўтары будучых артыкулаў і аглядаў будуць вольнымі ў выбары мовы: яны змогуць выступаць на старонках выдання не толькі на англійскай, але і на беларускай, польскай, нямецкай, рускай або французскай мовах.

Высокі навуковы ўзровень публікацый, кваліфікаваны падбор мэтанакіраванай тэматыкі, звязанай з беларускай ідэяй, сведчаць аб адказнасці і вялікай любові да Беларусі рэдактараў выдання і яго спонсараў — Англа-беларускага таварыства на чале з яго старшынёй містэрам Джэймсам Дынглі і Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны на чале з магістрам Аляксандрам Надсанам.

У добры час вам, “Occasional Papers in Belarusian Studies”.

**Анатоль АКСАМІТАЎ,**
**доктар філалагічных навук**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Сцяг і герб... Чагосьці не хапае, нейкага трэцяга кампанента. Правільна, само сабой вынікае — партрэта прэзідэнта! Дэмакратыя ўзмацняецца шанаваннем партрэтаў, дзеля гэтага і аздабляюцца кабінеты. Было адчуванне прагалу, страты нечага нязменнага, нельга дапускаць, каб пуставала месца вялікага Леніна.

●

Яшчэ стаяць бонзы, адлітыя ў бронзе, яшчэ ўскладаюць кветкі і старыя галасуюць “за”, а ўжо змізарнелі словы і нічога не гавораць назовы “плошча Леніна”, “плошча Калініна”, “вуліца Мяснікова”, “вуліца Нагіна”. А што патлумачыць дзеткам, каму гэта ўскладалі кветкі, і за каго гэта эпоха не прагаласавала “за”?

●

Быць ці не быць? Не зграя мы, за намі глыбокае ворыва. Народ не знікае, калі ў яго ёсць гісторыя.

Быць ці не быць? Мяняюцца сімвалы, а не словы. Народ не выраджаецца, калі ў яго ёсць мова.

Быць ці не быць? Пакланяемся свяшчэнным сваім мошчам. Народ не вымірае, калі ў яго ёсць нябожчыкі.

●

Колькі іх за Уралам, людзей беларускага паходжання, знесеных ветрам, кінутых у вір! Шукаем за акіянамі тых, што ў нас народжаны, а хто даследуе тэму “Беларускі этнас і Сібір”?

●

— Стой, пропуск? — “Мушка”. — Бяры ў дужкі “мушку”. Надта ты, братка, хітры, цяпер пропуск “паўлітра”.

●

Памёр нефармальны лідэр літаратурнай групоўкі. Засядае камісія па пісьменніцкай спадчыне. Хцівыя хаўруснікі, сябры па тусоўцы, дробныя празаікі, а якая была зграя!

●

Скардзіўся п’яны: родныя яго забылі, няма вакол блізкіх, адны землякі і суседзі. І тады зверху міргнула зорка: мы з табой, любы, браты па розуму. І заснуў п’яны. П’яным яно лягчэй, ім няшмат трэба.

●

Во зараза: згодны на любую абразу, але прызнай адразу, што сусед яшчэ большая зараза.

●

Гісторыя краіны як гісторыя жылля — сядзібы і хаціны, убачаныя здаля, асвоеныя змалку баракі і камуналкі, інтэрнаты і хрушчоўкі, хрушчоўкі палепшанай планіроўкі, абяцанкі роднай партыі пра кватэры для кожнай сям’і, далей гаварыць не варта, бо далей ці не камунізм. А цяпер што душы вярэдзіць? Новыя катэджы? Тэма пакуль што не вывучаная і не вычарпаная датла. Таксама гісторыя краіны, гісторыя навейшага жытла.

●

З дынамікаў нёсся рок, напяты, грозны. І раптам дзіцячы галасок запеў “Вы шуміце, бярозы”. Не туды сунулі вілку? Правільныя бываюць памылкі!

●

З Нідзё Ёсімота. Стары сабака ўжо не сабака, не брэша і не кусаецца, цягне за шворку сівога гаспадара, а той стаіць — упіраецца. І ідзе праз кароткую шворку між двума нетаропкая гаворка.

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*, **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 331-985**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7315.
Нумар падпісаны 11.4.1996 г.
Заказ 1941/Г

П 123456789101112
М 123456789101112